«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 7 (227), ліпень 2025 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 7 (227) (ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus





Змест



ЮБІЛЕЙ

# «Жыццё ідзе, а холад на душы…»

## Да 130-годдзя з дня нараджэння Ігната ДВАРЧАНІНА

Сяргей ЧЫГРЫН

Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, педагог, паэт, літаратуразнавец, вязень сталінскіх лагераў Ігнат Сымонавіч Дварчанін (1895—1937) быў родам з вёскі Погіры Слонімскага павета (цяпер гэта Дзятлаўскі раён). 7 чэрвеня споўнілася 130 гадоў з яго дня нараджэння…

У 1912 годзе Ігнат Дварчанін скончыў Дзятлаўскую школу, атрымаў атэстат народнага настаўніка. Тры гады працаваў у вёсцы Хмяльніца на Слонімшчыне. З траўня 1915 года служыў у расійскім войску, ваяваў на Заходнім фронце ў чыне падпаручніка. З чэрвеня 1917 года быў у Менску, стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. З сакавіка 1918 года — сакратар культурна-асветніцкага аддзела Белнацкама ў Маскве. Браў актыўны ўдзел у нарадзе настаўнікаў беларускіх школ у ліпені 1918 года.

Ігнат Дварчанін скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пражскага ўніверсітэта са ступенню доктара філасофіі. Чэшскі перыяд жыцця беларуса характарызуецца актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён быў старшынёй Аб'яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў, сябрам Беларускай рады, якая аб'ядноўвала беларускую эміграцыю ў Чэхаславакіі.

У 1926 годзе ў Вільні ўступіў у Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду (БСРГ), быў цесна звязаны з яе кіраўніцтвам, выконваў даручэнні Цэнтральнага сакратарыята БСРГ, чытаў лекцыі ў Віленскім гуртку Грамады. Ён працаваў сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства, настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі.

У 1928 годзе ад Навагрудскай выбарчай акругі Дварчанін быў абраны ў польскі сейм, удзельнічаў у беларускім рабоча-сялянскім пасольскім клубе «Змаганне», які фактычна працягваў дзейнасць Грамады. У 1930 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў турмы. Праз два гады яго вызвалілі ў выніку абмену палітзняволенымі паміж СССР і Польшчай.

Ігнат Дварчанін пераехаў у БССР. З лістапада 1932 года працаваў у Акадэміі Навук БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі, выконваў абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. А 16 жніўня 1933 года яго беспадстаўна арыштоўваюць органы НКУС па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Пастановай судовай калегіі ад 9 студзеня1934 года ён быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, якую замянілі на 10 гадоў пазбаўлення волі.

Пакаранне Ігнат Дварчані адбываў на Салавецкіх астравах і будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Але 25



Помнік Ігнату ДВАРЧАНІНУ
на радзіме ў Дзятлаве

лістапада 1937 года, паводле прыгавору «тройкі», яго расстралялі…

Ён пачаў друкавацца з 1917 года. Тады быў апублікаваны яго першы верш «Да беларусаў-інтэлігентаў» у «Беларускай радзе» і верш «Покліч» у «Вольнай Беларусі». Вершы паэта змяшчаліся таксама ў газеце «Дзянніца», часопісах «Родныя гоні», «Маланка», «Наш шлях», «Маладое жыццё», «Беларуская школа ў Латвіі» і ў іншых. Тэматыка яго твораў была прысвечана барацьбе за адраджэнне беларускай культуры, за ўзняцце яе на больш якасны ўзровень, за ўсведамленне беларускім народам сваёй гістарычнай і палітычнай значнасці, роўнасці з іншымі народамі.

Падчас вучобы ў Пражскім універсітэце паэт публікаваў вершы рэвалюцыйна-рамантычнай накіраванасці ў студэнцкіх выданнях «Прамень», «Студэнцкая думка», «Перавясла».

Асобныя вершы Ігната Дварчаніна друкаваліся ў беластоцкім «Беларускім календары», у часопісе «Беларусь», у зборніку «Ростані волі» (Мінск, 1990), які склаў Уладзімір Калеснік, у альманаху «Ятранка» (2021) і ў іншых выданнях.

У 1995 годзе ў Гродне выйшла кніга «І. С. Дварчанін. Гісторыка-біяграфічны нарыс», над якой папрацаваліся Яўген Місарэвіч і Мікалай Каралёў. Гэтае выданне складаецца з чатырох раздзелаў. У адзін з іх увайшлі вершы Ігната Дварчаніна і яго пераклад паэмы «Дванаццаць» Аляксандра Блока на беларускую мову. Усяго было апублікавана 22 вершы Ігната Дварчаніна. Адзін з іх — «З чужой стараны» — апублікаваны ў скарочаным варыянце: толькі дзве страфы. Тыя надрукаваныя вершы — далёка не ўся паэтычная спадчына заходнебеларускага паэта. Дзясяткі вершаў Ігната Дварчаніна раскіданы па многіх беларускіх выданнях 1920-х гадоў. Наспеў час сабраць іх пад адну вокладку і выдаць асобным выданнем.

Прапаную ўвазе чытачоў «Літаратурнай Беларусі» малавядомыя вершы Ігната Дварчаніна, якія былі напісаныя ім на пачатку 1920-х гадоў.

Ігнат ДВАРЧАНІН

### З чужой стараны

*О, Беларусь, о, край мой мілы,*
*Старонка родная мая.*
*Тут расказаць не маю сілы,*
*Што адчуваю ў сэрцы я.*
*Цябе я бачу ў бляску сонца,*
*У срэбных пацерках расы,*
*Што красяць у табе бясконца*
*І луг, і поле, і лясы.*
*Цябе, убраную ў шаты,*
*Зялёны, свежы як бы жар.*
*Пакроў цудоўны і багаты,*
*Што робіць вобраз поўным чар.*
*Народ я бачу веры поўны,*
*Няволі выжыўшы кашмар.*
*Усім народам свету вольны*
*У роднай хаце гаспадар.*
*Люблю цябе, о край мой родны!*
*За што? Сказаць бы я не мог…*
*Што мушу мо, як пёс нягодны,*
*Туляцца па чужых кутох.*
*А можа быць, сваю нядолю*
*Ў тваім я твары палюбіў,*
*Сваю аддаўшы ветру волю,*
*Сабе чужую налажыў.*
*Што мне там меса не знайшлося,*
*Паміж улюбленых сяліб,*
*Дзе гнецца і шуміць калоссе,*
*Паміж галлістых груш і ліп.*
*Што з дому выгнаны злым рокам,*
*Табою запаўняю сны.*
*Як птушка ў выраі далёкім,*
*Чакаю светлых дзён вясны.*

### Прывіт

*Прывіт вам са залатое Прагі,*
*Пад гоман светлае вясны.*
*Што паднялі штандар адвагі*
*Між бруду, здзеку і маны.*
*Балююць хай мінулыя героі*
*І стогне хай прыгнечаны народ,*
*Хай злыдні цешацца ва ўпоі —*
*Ды хай не помняць свой чарод.*
<…>
*Вясна! З чароўнаю вясною*
*Ідзе жаданае свята.*
*І кінем крыўду за сабою,*
*Як бы яе і не было.*

### Вецер

*Вее вецер, завывае,*
*Грае, свішча на прасторы.*
*Хмары чорныя ганяе,*
*Ломіць дрэвы, крышыць горы.*
*І ў мяне на сэрцы бура,*
*Каб няволі крык адняла,*
*Між людзей адна панура*
*Каб ачмурана блукала.*
*Свет вялікі, свет шырокі, —*
*Для мяне ж на свеце цесна.*
*Рвуся-ймкнуся ў розны бокі —*
*Духу ж скалы ўсе адвесны.*
*Вецер буйны, дух адваг,*
*Мы так родныя з табою,*
*Як бяздомныя бадзягі,*
*Перахрышчаны журбою.*
*Не знаходзім мы спакою*
*У прыгожым людным свеце,*
*І жыццё сваё з маною*
*На абшарах мусім пеці.*
*Зробім сполку, брат, з табою,*
*Ўдвох палецім на прасторы.*
*Мо распрасцімся з нудою,*
*Мо разгонім разам гора?*

### Мінор

*Аб чым пяяць магу?*
*Дзе тоны падбяру?*
*О, не звініць струна,*
*Спакойна ліра спіць.*
*Там на дварэ вясны*
*Жыццё ідзе, жыццё,*
*А холад на душы,*
*А сэрца — нібы лёд.*
*А крыллі дзе мае?*
*Апалі да зямлі.*
*Не рвецца сэрца ўвысь,*
*Маўчыць зусім душа…*
*Надзея зарасла*
*Пякучай крапівой.*
*І свет — як бы не свет,*
*Жыццё — як не жыццё.*
*Збаўленне дзе знайду?*
*Няўжо яго няма?*
*Няўжо патух агонь,*
*Няўжо зацьміўся свет?*
*Гэй, стой, маўчы, душа!*
*Не муч сябе, не муч, —*
*Зярняты ж у зямлі.*
*І будзе, будзе ўсход,*
*Надыдзе красны май.*
*Надыдзе блеску час,*
*І краскі зацвітуць*
*На полі дзіўна так!*
*Ідзе, ідзе яно,*
*Ідзе, ідзе святло.*
*І струны зазвіняць,*
*І сэрца запяе.*

# Страчаная цывілізацыя: Путкамеры



Леанід ЛАЎРЭШ

## Беняконі

Калі ехаць з Ліды на поўнач, праз Жырмуны і Воранава, на самай мяжы можна спыніцца ў Беняконях, у мястэчку, якое ў 1566 годзе, пасля адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы ВКЛ, увайшло ў Лідскі павет.

У 230-й кнізе Метрыкі ВКЛ бачым першае пісьмовае згадванне Беняконей у 1529 годзе, калі пасля смерці нейкага Томка паселішча перайшло яго дочкам Ядвізе і Алене Тамкоўнаў. Сёстры прадалі частку сваёй маёмасці баярыну Лаўрыну, ад якога Беняконі ўпадкавалі яго сыны Мікалай, Шасны, Павел і Балтрамей Лаўрынавічы, але ў 1542 годзе паміж сынамі Ядвігі і баярамі Лаўрынавічамі пачалася судовая спрэчка за маёмасць. З 1553 года Беняконямі валодаюць баяры Ямантавічы, і недзе з 1556 года гэтае мястэчка згадваецца як сяло гаспадарскага двара «Рудомино» — уладанне вялікага князя Жыгімонта Аўгуста.

Беняконі ў першай палове XVII стагоддзя належалі Яну Чаплінскаму, які ў 1634 годзе заснаваў тут драўляны касцёл Яна Хрысціцеля. У XIX стагоддзі быў пабудаваны касцёл у стылі народнага драўлянага дойлідства. Сучасны, цагляны касцёл пачалі будаваць у 1900 г. і да 1906 г. паўстаў новы храм у эклектычным стылі з рысамі неабарока і неакласіцызму.

Гэты прыгожы касцёл атачоны невысокім каменным валам, з яго ўсходняга боку, як гэта бывае каля храмаў, маюцца магілкі, на іх ёсць магіла Марылі Путкамер з Верашчакаў з вялікім каменем, на якім чытаюцца літары надпісу: «S. P. Marya z Wereszczaków Hr. Puttkamerowa Ur. 1799 r. Grudnia 24. Um. 1863 r. Grudnia 23. «Wieczne odpocznienie racz Jej dać Panie». Гэтая жанчына яшчэ пры жыцці стала легендай: яе кахаў вялікі Адам Міцкевіч. Каля магілы Марылі маецца магіла яе дачкі — Караліны Рыхлевіч з Путкамераў, якая ў 1923 годзе памерла ва ўзросце 83 гадоў.

Перад тым, як з Беняконяў павярнуць на захад у бок Бальцэнікаў, пра якія далей пойдзе размова, дадам, што да 1939 года ў Беняконях знаходзілася даследчая аграрная станцыя, якой кіраваў вядомы біёлаг, прафесар Вацлаў Ластоўскі, поўны цёзка беларускага дзеяча. Калі не ўсё жыццё, дык як мінімум у 1920-х гадах гэты Вацлаў Ластоўскі лічыў сябе беларусам.

## Бальцэнікі і род Путкамераў

У 1514 годзе Бальцэнікі належалі Добку Скіландзевічу. У той жа 230-й кнізе Метрыкі ВКЛ знаходзім інфармацыю пра Бальцэнікі ў гэтым годзе. Уладальнікамі маёнтка былі Лукаш Кандратовіч, браты Марцін і Мікалай Міхнавічы, Міхал Сакалоўскі, Давойна, Казінскія. Паводле дадзеных падымнага рэестра ВКЛ 1690 года, Бальцэнікі належалі Зямбло і Стэфану Храптовічу, якія мелі тут па адным дыме. На пачатку XVIII стагоддзя ад Храптовічаў Бальцэнікі і Гайцюнішкі перайшлі да інфлянцкага роду Шротараў герба Любіч. У гісторыі вядомы Ян Шротар (1646—1726), які меў у Вільні камяніцу на цэнтральнай вуліцы Замкавай, двор за віленскай брамай і шэраг маёнткаў у Віленскім павеце. У 1723 годзе праз шлюб з Даротай Шротар Бальцэнікі перайшлі інфлянцкаму стольніку Ваўжынцу Путкамеру.

Род Путкамераў бярэ свой пачатак у сівой даўніне, і ёсць тры версіі яго паходжання. Па першай версіі, Путкамеры паходзяць ад роду Варсевічаў-Сякерка, прычым першым з гэтага роду быў Яська (Jeśko), які займаў пасаду падкаморага ці кароннага шамбеляна; яго патомства, перасяліўшыся ў Германію, атрымала прозвішча Путкамераў, з Германіі Путкамеры рассяліліся ў Чэхіі, Прусіі і ў ВКЛ, атрымліваючы землі і пасады за добрую службу. Заснавальнік роду — падкаморы Яська Варсевіч — дапамог Баляславу Крывавустаму перамагчы ў 1109 годзе войска імператара Генрыха V пад Уроцлавам на Сабачым полі, за што і атрымаў герб Брадач (Bradac). Менавіта ад пасады падкаморага і атрымалася прозвішча Путкамер (podkomorzy = putkamer).

Паводле другой версіі, першы прадстаўнік гэтага роду перасяліўся ў Інфлянты ў палове XVI стагоддзя, заснаваў там замак Нерфт, у 1620 годзе род быў упісаны ў генеалагічна-геральдычныя кнігі рыцарства курляндскага як «адвечная шляхта рыцарская».

Трэцюю версію дае «Польская шляхецкая энцыклапедыя»: «На пачатку XIV ст. — адзін з даўнейшых і заможнейшых родаў паморска-прускіх, які паходзіць ад знанага і ўплывовага роду Швенца. У XV ст. род падзяліўся на некалькі ліній, адна з галін роду асланавіла прозвішча на Клячынскі, іншыя, захоўваючы сваё родавое прозвішча, дзейнічалі ў Прусах, Курляндыі, Польшчы і ВКЛ (галоўным чынам у Жмудзі). Прадстаўнік курляндскай галіны палкоўнік Крыстоф-Генрык атрымаў ад нямецкага імператара Леапольда I тытул барона, а Марцін-Антон з паморска-шлёнскай галіны стаў прускім баронам у 1737 годзе».



Бальцэнікі. Малюнак Напалеона ОРДЫ

Як бы там ні было, але нямецкая галіна роду згасла у Курляндыі ў XVIII стагоддзі, пруская існуе да нашага часу (жонка Бісмарка была з Путкамераў), а на тэрыторыю сучаснай Беларусі (на Навагрудчыну) прадстаўнік гэтага роду перасяліўся ў XVII стагоддзі.

Ваўжынец Путкамер, стольнік інфлянцкі, ажаніўся на Ганне Лівен, яны мелі сына Казіміра. Пасля смерці Ганны, ад яго другога шлюбу з дачкой інфлянцкага кашталяна Даротай Шротэр, нарадзіліся тры сыны: Станіслаў, Ежы і Ваўжынец. Праз шлюб з Даротай Шротэр Путкамер атрымаў Гайцюнішкі і Бальцэнікі, па іншай версіі — ён купіў гэтыя маёнткі. Згадваецца ў дакументах як сіньёр Віленскага пратэстанцкага збору.

Ваўжынец — сын Ваўжынца, генерал-ад'ютант польнага гетмана ВКЛ Масальскага, які ажаніўся з Даротай Цэндроўскай, бабруйскай старасцянкай, меў сына Ежы Аляксандра — шамбяляна караля Рэчы Паспалітай, які быў ахрышчаны ў Бальцэніках 7 кастрычніка 1762 года.

Ежы Аляксандр ажаніўся з Каралінай Стрыеўскай (дачкой палкоўніка войскаў ВКЛ) і меў сыноў Яцака Багуслава (1792 г. н.) і Ваўжынца Станіслава Яна (1794—1850), дачок Дароту Катарыну (1797 г. н.) і Яну Канстанцыю (1798 г. н.).

Ваўжынец Станіслаў Ян нарадзіўся 14 жніўня 1794 года і быў ахрышчаны 26 жніўня ў Бальцэніках. Гэта быў год апошняга падзелу краю, у краіне гаспадарылі расійскія войскі, і ў дзень нараджэння немаўля ў маёнтку з'явіліся казакі, што выклікала паніку сярод дамачадцаў. Бацька малога Ваўжынца прасіў расійскага афіцэра не парушаць спакой сям'і ў такі дзень. Казацкі афіцэр паабяцаў гэта і нават узяў дзіцятка на рукі ды благаславіў яго. Хутка маладая жонка памерла, што разам са стратай незалежнасці радзімы прывяло каралеўскага шамбяляна да працяглай меланхоліі і страты ўсякай цікавасці да жыцця, таму малы Ваўжынец гадаваўся не толькі без маці, але і без бацькі.

Выхаваннем унука заняўся дзед, былы генерал-ад'ютант польнага гетмана ВКЛ Масальскага, і старая нянька Грындзава. Дзед быў чалавекам гарачай веры, кожны дзень у яго маёнтку адбываліся богаслужэнні, у якіх удзельнічалі ўсе дамачадцы. У старога генерал-ад'ютанта была любімая прымаўка: «Насамрэч хай лепей нас Усявышні крыўдзіць, абы мы нікога не крыўдзілі».

Ва ўзросце 13 гадоў Ваўжынец быў аддадзены вучыцца ў Слуцкую пратэстанцкую школу, пад апеку рэктара школы пастара Міхала Ваноўскага. Ваноўскі вучыў яшчэ бацьку Ваўжынца, і адносіны паміж Ваноўскім і Путкамерамі былі амаль што радзіннымі. Даследчыкі адзначаюць, што пратэстанцкая школа дала яму значна лепшую падрыхтоўку для атрымання вышэйшай адукацыі, чым, напрыклад, падрыхтоўку ў навагрудскіх дамініканаў, якую меў Адам Міцкевіч.

У 1809 годзе памёр Путкамер-дзед. У 1810 годзе ўнук пачаў вучыцца на філасофска-матэматычным факультэце славутага Віленскага ўніверсітэта і ў 1812 годзе атрымаў ступень кандыдата філасофіі. Калі пачалася вайна 1812 года і Напалеон аднавіў існаванне Вялікага Княства Літоўскага, унук, як большасць яго сяброў, запісаўся шарагоўцам у зноў ствoранае войска Вялікага Княства, у гвардзейскі кавалерыйскі полк генерала Канопкі, а потым у полк лёгкай кавалерыі імператарскай гвардыі Вінцэнта Красінскага. Васямнаццацігадовы юнак быў з арміяй Напалеона ў Маскве, выжыў у катастрофе на Бярэзіне. Адступаючы з войскам каля Вільні, заехаў дахаты — і захварэў тыфам. А калі вылечыўся, вайна ўжо ішла далёка на захад ад дома. Гонар жаўнера і вера ў зорку Напалеона не дазволілі яму адсядзецца ў хаце: праз тылы расійскіх войскаў, абмінуўшы казацкія патрулі, ён прабраўся ў Мерач на Нёмане і ў люты мароз перайшоў раку. Потым спустошаным вайной краем малады граф рухаўся да сваіх. Час ад часу злазіў з каня і, каб сагрэцца, бег побач. Сілы ўжо пакідалі юнака, калі ён сустрэў інспектара дывізіі кавалерыі, які ехаў у Варшаву ў полк Красінскага. Афіцэр падабраў задубелага маладзёна і давёў яго ў полк.

Малады вайсковец ваяваў усю кампанію 1813 года, трапіў у прускі палон і пасля амністыі, у 1814 годзе, вярнуўся дахаты ў чыне паручніка. Напалеон застаўся кумірам Ваўжынца Путкамера да канца жыцця, потым ён часта расказваў: «Вы маладыя, не разумееце, што з намі адбывалася... у нас ускіпела кроў, і мы былі здольныя на ўсё, калі вялікі чалавек... у шэрым сурдуце галапіраваў перад фронтам нашага палка і, паказваючы на непрыяцеля, казаў «Mes braves et fideles Polonais en avant!». Параза пад Ватэрлоо прывяла Путкамера да гарачкі, а калі ён пачуў пра вяртанне імператара ў так званых «сто дзён Напалеона», дык ужо прыгатаваў свой уланскі мундзір і гатовы быў ехаць у Францыю. Нават будучы ў сталым веку, ніколі не мог спакойна расказваць пра тыя часы і пра імператара Напалеона. А ў 1840 годзе, калі парэшткі імператара ўрачыста перавозіліся з вострава Святой Алены ў касцёл Інвалідаў у Парыжы, толькі адсутнасць грошай прымусіла графа ўстрымацца ад паездкі ў Францыю.

## Уніхава

Пасля заканчэння вайны Ваўжынец Путкамер пачаў гаспадарыць на зямлі. Ад 1816 года малады граф жыў у невялікім маёнтку Уніхава недалёка ад Карэлічаў. Чалавек з еўрапейскім менталітэтам, ён лічыў неабходным палепшаць жыццё простага народа, даць сялянам асабістую волю і стварыць сістэму народнай адукацыі. У той час імператар Расіі Аляксандр I дазволіў абшарнікам даваць асабістую свабоду прыгонным сялянам і пераводзіць іх на грашовы аброк. Як дэлегат ад Навагрудскага павета на Гродзенскім губернскім сойміку ён прапанаваў так зрабіць усім абшарнікам і прыняць супольную заяву. Калі б гэтая прапанова была прынятая і сяляне атрымалі волю амаль на палову стагоддзя раней, гісторыя нашага краю магла б скласціся інакш. Толькі некалькі маладых абшарнікаў падтрымала Путкамера, большасць шляхты абурылася і назвала яго анархістам і якабінцам. Дэлегату ад Навагрудскага павета толькі заставалася далучыць свой праект да пратакола сойміка.

У 1817 годзе цар Аляксандр I дазволіў ушанаваць памяць памерлага Касцюшкі, і па ўсёй Беларусі і Польшчы праходзілі зборы шляхты з урачыстасцямі, прысвечанымі смерці Тадэвуша Касцюшкі, і богаслужэнні ў касцёлах. Прайшло ўшанаванне памяці героя і 13 снежня 1817 года ў Наваградскім касцёле. Касцёл быў упрыгожаны партрэтамі Касцюшкі, Рэйтана, Корсака, Багушэвіча, Радзішэўскага — мужоў, якія годна паводзілі сябе падчас падзелаў і баранілі Радзіму. Пасля прамовы маршалка шляхты Вайніловіча пратэстант Ваўжынец Путкамер прачытаў элегію «На смерць Тадэвуша Касцюшкі», якую напісаў сам, але ёсць меркаванне, што гэтая элегія магла належаць пяру Адама Міцкевіча.



Сядзіба Путкамераў у Бальцэніках

Заканчэнне на стар. 3 »

# Страчаная цывілізацыя: Путкамеры

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

Уніхава знаходзілася недалёка ад Туганавічаў, дзе дваццацішасцігадовы граф і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай — Марыляй Верашчакай. Ён сябраваў з братамі Марылі і, як запісана ў дзённіку дзяўчыны, сваю прапанову «рукі і сэрца» зрабіў 14 ліпеня 1819 года ў форме чатырохрадкоўя. Даследчыкі адзначаюць, што, акрамя графа Путкамера, невядома ні аднаго сапраўднага канкурэнта на руку Марылі.

Будучая графіня была добра выхавана і адукавана. Яна мела двух гувернантак (французку і немку), музыцы яе вучылі французы-эмігранты Манарэ і Фроке, спевам — італьянец Бранэцці, класічную адукацыю яна атрымала ў ксяндзоў-езуітаў Вішнеўскага і Дзівурдзевіча. Дзяўчына валодала французскай, нямецкай і італьянскай мовамі, шмат чытала, спявала, музыцыравала. Марыля з цікавасцю прымала знакі кахання ад Міцкевіча, але выбрала сапраўднага баявога афіцэра. Путкамер і Міцкевіч па-сяброўску зразумелі адзін аднаго, і, пасля сур'ёзнай размовы, супернік згадзіўся добраахвотна «пакінуць поле бітвы». Міцкевіч і потым вельмі добра адносіўся да мужа Марылі, застаўся сябрам іх абодвух.

Антоні Адынец пісаў, што Ваўжынец Путкамер пазнаёміўся і заручыўся з Марыляй яшчэ да яе знаёмства з Адамам Міцкевічам. Потым ён не разарваў заручын, але пасяброўску пагаварыў з Адамам, і толькі калі той добраахвотна адступіў, заключыў з ёю шлюб. Але каханне засталося ў сэрцы паэта.

Марыя Верашчака і Ваўжынец Путкамер узялі шлюб 2 лютага 1821 года ў Туганавічах. Звестак пра гэтую падзею няма, аднак, верагодна, цырымонію вёў каталіцкі ксёндз. У традыцыях ВКЛ пры розных веравызнаннях у сям'і сыны павінны былі выхоўвацца ў бацькоўскай веры, а дочкі ў матчынай. Путкамеры прытрымліваліся гэтага прынцыпу некалькі пакаленняў, іх унук быў актыўным пратэстантам, пры тым шлюб ён браў у варшаўскім кляштары візітак, а яго дачка Яніна была каталічка.

Адразу пасля шлюбу маладыя жылі ва Уніхаве, але Ваўжынец хутка атрымаў маёнтак Бальценікі з Бражэльцамі (200 мужчынскіх душ), і яны пераехалі ў Бальценікі.

Маёнткам Бальценікі Путкамеры валодалі з 1723 года да Другой Сусветнай вайны. Двор і гаспадарчыя пабудовы ляжалі на высокім узгорку, які з заходу пераходзіў у раўніну, а на ўсход ад маёнтка цякла рака Гражулка. Болей за стагоддзе сядзібай Путкамераў быў невялікі мураваны дом з мезанінам, накрыты высокім «ламаным» гонтавым дахам, дом меў ганак з калонамі і быў добра аздоблены знутры і абстаўлены мэбляй у стылі ампір. У доме меліся прыгожыя кафляныя печы і каміны, столі ўпрыгожвала маляўнічая размалёўка на біблейскія і антычныя тэмы. Адной з іх была грэцкая сцэна з Апалонам. Перад домам размяшчаўся традыцыйны газон з пад'язным колам, а з правага боку каля газона стаяла невялікая драўляная афіцына. Па восі будынка ішла ліпавая алея. За домам, у нізіне, размяшчаўся пейзажны парк, за якім, агінаючы сядзібу з паўночна-ўсходняга і ўсходняга боку, працякала рэчка Гражулка, якая ўпадае ў Сольчу.



Марыля ВЕРАШЧАКА-ПУТКАМЕР

Ад гэтага дома захаваўся толькі на малюнку Напалеона Орды. У другой палове XIX стагоддзя стары маёнтак праз эксдывізію[1] адышоў у дзяржаўную маёмасць і прыйшоў у заняпад. Пусты, без мэблі будынак быў на мяжы зруйнавання.

## «Гаік Марылі»

Вядома, што пачуцці Адама Міцкевіча пасля страты Марылі абяссмерчаны ў 4-й частцы «Дзядоў». Падзеі, перажытыя паэтам, адбыліся ў Вялікіх Салечніках падчас яго гасцявання ў ксяндза Паўла Грынашкевіча. Падчас гасціны ў свайго далёкага крэўнага Міцкевіч меў магчымасць сустрэцца з Марыляй, якая жыла за адну мілю ад Вялікіх Салечнікаў. Замужства з Путкамерам — гэта лёс Марылі, але калі б не гэта, дык Адам Міцкевіч не меў бы нагоды прыехаць у Вялікія Салечнікі да свайго далёкага сваяка ксяндза Паўла Грынашкевіча (яго можна лічыць праобразам ксяндза Пятра з «Дзядоў»), і літаратура, напэўна, не мела б гэтакіх геніяльных твораў.

Падчас шпацыраў з ксяндзом Грынашкевічам Адам Міцкевіч даведаўся, якімі дарожкамі ходзіць яго каханая. З цяжкасцю перамог у сабе жаданне паехаць у Бальценікі. Аднак спакуса была вялікай, бо Міцкевіч амаль што год не бачыў Марылю. Ужо пяць месяцаў яна была замужам, і бура патроху сціхала ў яго душы. Але, магчыма, у яго сэрцы яшчэ жыла надзея, што не ўсё страчана, што Марыля, аддаўшы сваю руку Путкамеру, цалкам не выкрасліла яго з свайго сэрца і сваёй памяці. Ірваўся да яе, бо жыла яна гэтак блізка, і цешыў сябе надзеяй, што там, сярод сінеючых бароў, якія раслі вакол Бальценікаў, чакае і пакутуе самая дарагая на свеце жанчына.

Сутыкнуўшыся з Путкамерамі ў Вільні, Міцкевіч атрымаў запрашэнне наведаць Бальценікі і гасцяваў тут два тыдні. Тым візітам датуюцца самыя рамантычныя спатканні з Марыляй. Верагодна, не заўсёды яны маглі афіцыйна бачыцца, і таму мусілі ўцякаць на патаемныя спатканні. На адно з гэтых спатканняў паэта паклікала цыдулка: «У 12 вечарам, у чацвер, у тым месцы, дзе паламаная галінка, а калі нешта архіважкае перашкодзіць, тады на мяжы, у пятніцу, а пятай гадзіне».

У часы, калі Бальценікі наведваў Адам Міцкевіч, перад старым домам рэчка пераўтваралася ў своеасаблівае возера (мора Марылі). Месцам, вызначаным Марыляй — «дзе была паламаная галінка», трэба лічыць «Гаік», у якім да нашага часу захаваўся вялікі камень з глыбока выбітым крыжам. Лічыцца, што крыж выбіла сваімі рукамі Марыля, якая пасля таго, як паэт незваротна пакінуў наш край, улетку штогод доўгія гадзіны гуляла ў «Гаіку», прыгадваючы кароткія, але незабыўныя да канца жыцця хвіліны рамантычных сустрэч.

Гэтая версія з'яўлення крыжа на камяні выкладзена ў мемуарах Антонія Адынца. Верагоднасць яго версіі ўзмацняе тое, што ён разам з Янам Чачотам гасцяваў у Бальценіках у 1823 годзе, праз год пасля двухтыднёвага знаходжання тут Міцкевіча. Як пісаў Антоні Адынец, Марыля часта наведвала лясок, дзе знаходзіўся вялікі плоскі камень «з выкаваным на ім ёю самой крыжам, пакладзены як надмагільная пліта — Мінуламу і Надзеі».

Але існуе легенда, што Адам Міцкевіч сам, у памяць аб рамантычным каханні да Марылі з Верашчакаў, высек крыж на гэтым валуне.

Той камень сёння атачаны павагай турыстаў і навакольнымі людзьмі. Ён ляжыць на невялікай палянцы, і дрэвы вакол яго памятаюць гарачы шэпт паэта. Недалёка цячэ срэбная Сольча — тагачасная мяжа лідскага і віленскага паветаў.

Вось як Антоні Адынец апісаў свае знаёмства з мужам і жонкай Путкамерамі ў 1823 годзе: «…пасля вяртання (у Вільню — *Л. Л.*) я <…> знайшоў вельмі мілы для мяне сюрпрыз — афіцыйнае запрашэнне панства Путкамераў, каб разам з Чачотам прыехаў да іх на Тройцу. Абое яны былі мне незнаёмыя, а ліст абое напісалі такі сардэчны, што хоць бы нават раней сам не меў ахвоты, ён бы дадаў мне жадання да гэтага знаёмства. Марыля здаўна была для мяне аб'ектам цікавасці, і калі ў красавіку 1822 года яна з мужам была пару тыдняў у Вільні і я ведаў, што Адам і Чачот у іх бывалі, — не раз шукаў спосаб, каб хоць бы здалёк яе ўбачыць, не смеючы, зразумела, ніводнага з іх прасіць, каб увялі мяне ў яе дом, і нават згадваць ім пра гэта. <…> у сваёй прыпісцы да ліста мужа, пра які размова, яна паведамляла, што ўжо ведае мяне з выгляду і таму хоча бліжэй пазнаёміцца. <…> Ліст самога пана Ваўжынца быў напісаны з паважнай ветлівасцю, але і ён таксама не менш падобны быў па тоне да сяброўскага. Ён крануў маё сэрца, пагатоў я меў дагэтуль супраць яго заўсёды нейкую перасцярогу з "Дзядоў", уяўляючы сабе яго (як, магчыма, і не адзін чытач уяўляў) нейкім ганарыстым багатым арыстакратам, які толькі "золатам і зіхатлівым сваім гонарам" прывабіў да сябе сэрца "ветранай істоты". Праўда, Чачот мне заўсёды казаў, што гэта найвысакароднейшы, наймілейшы чалавек і што ўсе яго паводзіны адносна Адама насілі заўжды найвышэйшую шляхетнасць, якую сам Адам цалкам прызнаваў. Аднак ніколі, асабіста сам не пазнаўшы, я не мог бы паверыць чужой думцы, што той "захопнік Марылі" быў сапраўды такім высокаідэальным і нават, так скажу, такім паэтычным ва ўсіх адносінах чалавекам».

З Вільні ў Бальценікі Чачот з Адынцом ехалі ўсю ноч, і на ўзыходзе сонца ў нядзелю пад'ехалі да мураванага дома ў Бальценіках — аднапавярховага, але прасторнага. У доме ўсе яшчэ спалі, але стары добры слуга Дамінік, які спаў у сенцах, чакаў гасцей і правёў іх у падрыхтаваны пакой, дзе маладыя людзі тут жа моцна заснулі. Але хутка слуга быў змушаны іх разбудзіць, сказаўшы, што варта спяшацца з апрананнем, каб не спазніцца ў Беняконі на імшу. «Таму ледзь мы толькі апрануліся і ён прынёс нам каву — адчыняюцца дзверы, уваходзяць гаспадар і гаспадыня, гатовыя ўжо сесці і ехаць у касцёл. Увайшлі, трымаючыся пад руку, і гэтая хвіліна першай сустрэчы стала для мяне нібы камертонам пачуццяў, якія, развіваючыся і мацнеючы на працягу далейшых шматгадовых стасункаў, назаўсёды, аднак, захавалі больш-менш той жа тон і каларыт. Ён цалкам супярэчыў чаканням, гэта значыць уяўленню, якое ўжо здаўна ў мяне склалася і якое нават новыя аповеды Чачота (бо мы ў дарозе найчасцей пра гэта размаўлялі) змяніць неяк не маглі. Яго я заўсёды ўяўляў сабе як паважнага земскага грамадзяніна з панскім выглядам і далікатнасцю. Яна ж — гераіня! Ахвяра! — уяўлялася мне не інакш, як змрочная, бледная, маўклівая, нібы пакорная статуя на магіле. Аж вось з'яўляецца пара! Ён — статны, прыгожы малады чалавек са светлымі валасамі, якія завіваюцца кольцамі, і з такім філарэцкім выразам у вачах і твары, што аж сэрца пацягнула да яго. А яна — у белай сукенцы пад шыю, на таліі падпяразаная чорным пояскам; валасы каротка стрыжаныя, аднак спадаюць на шыю зпад круглага саламянага капялюшыка; са светлым, румяным тварыкам, гуллівай усмешкай, падалася мне тыпам наймілейшай пансіянерачкі», — успамінаў сябар Міцкевіча.

Сябры сям'і пісалі, што дом Путкамераў для гасцей быў надзіва мілым і дзіўным паэтычным храмам. Усё тут, здаецца, дыхала і было прасякнута паэзіяй, пачынаючы ад самой гаспадыні і да самых нязначных дробязей штодзённага жыцця. Ні ў чым не было свецкай раскошы і багацця, але без перабольшання можна было сказаць, што ва ўсім адчувалася раскоша і багацце паэтычнае, гэта значыць, што ўсё ў доме рабілася хутчэй для эстэтычнага ўспрымання і задавальнення, а не з-за рэальных патрэбаў або матэрыяльнай карысці. Нават і жаночая хатняя гаспадарка, якой Марыля ахвотна і самастойна займалася. Напрыклад, яна заглядала ў кароўнік, стайню і ў фальварак не дзеля прадуктаў або нагляду панскім вокам. Каровы на яе покліч самі падыходзілі да ейных рук, коні ў стайні, асабліва любімая ездавая Гурыська, азіраліся на яе, калі Марыля заходзіла, бо звычайна яна мела ў хустачцы соль або цукар.

Ваўжынец і Марыля Путкамеры мелі трох дзяцей: сына Станіслава і дачок Зоф'ю (па мужы — Каліноўскую) і Караліну (па мужы — Рылевіч). Шчаслівы бацька казаў: «Мы не можам крыўдзіцца на жыццё, бо Бог даў нам слаўную Зосю, добрага Стася і таго галубочка», — мелася на ўвазе Караліна. Зоф'я вучылася спевам у Ксаверыя Дэўбель, потым брала ўрокі спеваў у Станіслава Манюшкі. Яна цешыла бацькоў спевам балад і рамансаў Міцкевіча, нагадваючы аб далёкім мінулым.

А «Гаік Марылі» — невялікі лясок прыкладна ў 500 метраў ад цэнтральнай сядзібы, мае важнае мемарыяльнае значэнне. Пра свой «Гаік» графіня ўспаміналa ў лісце да Тамаша Зана, апісваючы клопаты пра гэты прыгожы куток сядзібы, у якім, праўда, няма зеляніны, няма кветак і пераважаюць змрочныя цёмныя яліны, але, як пісала Марыля, нягледзячы на гэта, «ён захоўвае для мяне шмат прыгажосці». Тут адбываліся сустрэчы паэта з яго каханай, і народная легенда пра гэта жыве і сёння.




Валун Крыж Марылі

[1] Эксдывізія — юрыдычны тэрмін; у Літве існаваў закон, па якім у выпадку неплацежаздольнасці даўжніка яго маёмасць не прадавалася з аўкцыёна, а дзялілася на часткі адпаведна колькасці крэдытораў.

# Вячэра з Дональдам Трампам



Віктар САЗОНАЎ

На нашай вячэры з амерыканскім прэзідэнтам прысутнічаў яшчэ і віцэ-прэзідэнт ЗША Джэй Дзі Вэнс. Гэта ўжо я настаяў. Яны напачатку ўпіраліся, маўляў, аплачана толькі з Трампам. Думаў, пашлюць мяне кудысь у канец алфавіту. Але стаяў на сваім як керзавы бот.

Нешта ў ім ёсць такое, блізкае мне, інтуітыўна незразумела-зразумелае, у тым Вэнсе. Як тэорыя ўсяго адносна тэорыі адноснасці, але ж разабрацца хочацца. Я напачатку не ведаў, што. А ўжо пад час вячэры разам высветліліі, і ўсё праяснілася як на вясковым ранку. Ну, пра гэта потым.

А пачалося ўсё вось як.

Зазваніў тэлефон, і нешта пляце мне на вуха па-ангельску. Я яму таксама па-ангельсу адказваю, што ангельскай мовы не ведаю. Прабачце, маўляў, і ўсё там такое.

— Пшэпрашам, — кажу з нечаканасці, — эншульдзігум, лё сіенто, дэзолі, соры, але прашу гаварыць па-беларуску, калі ласка.

Так і сказаў — калі ласка.

І што вы думаеце.

— Гэта вам з Белага Дому тэлефануюць, — загаварыў тэлефон па-нашаму. — Дазвольце прадставіцца, прэс-сакратар Дональда Трампа Кэралайн Левіт.

Праз перакладчыка, вядома ж, гаворыць. Я то яе голас ведаю. Па тэлевізары чуў. А можа ўжо праз Штучны Інтэлект перакладаюць. Панавучаліся. Не знаю. Галоўнае, што ўсё зразумела, што нічога не зразумела.

— Ну, — кажу я.

— Гну, — адказвае яна ў рыфму. — Не запрог, то не нукай. Гэта я жартую. Прабачце, што пачала па-ангельску. Я думала, вы ведаеце гэтую мову. Бо яшчэ ваш дзед на ёй размаўляў. Каторы ў Новым Ёрку нарадзіўся.

Я напачатку моцна здзівіўся, што яна пра дзеда знае. Адкуль, думаю?! А пасля мяркую, што проста ўгадала. Што тут такога незвычайнага. Мала хто што ўгадаць можа.

— Дзед ведаў ангельскую, хіба што, — кажу. — Але нікому пра тое не казаў. Баяўся, каб за гэтыя веды яго ў Сібір не саслалі снег чысціць. А снегу там яшчэ з мінулых стагоддзяў ніхто не вывез. Мажліва таму і не навучыў нас.

— Разумею, — даводзіць яна роўна, без лішніх эмоцый. — Бліжэй да справы. Вы запрошаныя на вячэру з Прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі Дональдам Трампам у яго Фларыдскай рэзідэнцыі Мар-а-лага.

— Я?! — перапытваю я.

— Ну не я ж, — злуецца яна. — Гэта ж ты заплаціў пяць мільёнаў амерыканскіх даляраў за мажлівасць гэтай вячэры. Вы, ты… Як там у вас правільна звяртацца да аднаго чалавека?

— Я-я, — крычу я. — Я заплаціў, я! Я-я-я! Звяртайцеся як хочаце, абы ў печку не ставілі. Не кладзі толькі слухаўку! І што, праўда будзем вячэраць разам? Так хутка?! Я і не чакаў такога імгненнага адказу!

— У нас усё хутка, — у яе голасе прагучалі жалезныя ноткі. — Вы ж маеце справу са спадаром Трампам, а не… Чакаем вас у сем гадзін вечара. Заўтра.

Так мне цёпла стала ад гэтых слоў, «у сем гадзін вечара». У нас так у вёсцы гаварылі некалі. Не ў дзевятнаццаць, як цяпер кажуць, па-гарадскому, а ў сем гадзін вечара… Толькі паслухайце як гучыць. Бальзам на раны.

— Добра, — паабяцаў я. — Раптам спазнюся, то не разыходзьцеся. Дарога то не блізкая. А ў мяне машына старая.

Яшчэ раней, нейкі час да гэтага званка, я паслаў сваё вынаходніцтва для ўдасканалення электрамашын Ілону Маску. А ён узяў і купіў. А што яму. Не збядне ж нябось.

Такі Маск быў шчаслівы, як ніколі. Ледзьве «Лявоніху» не станцаваў на радасцях. Але не было па́ры пад бокам. А адзін танцаваць «Лявоніху» спадар Маск не будзе з-за павагі да беларускай нацыянальнай культуры. Гэта ж не танга. «Лявоніха» ўсё ж. Ды і не з такога цеста гэты чалавек, каб танцаваць без аўдыторыі. Разбірацца ж трэба.

Сказаў, што цяпер то яго «Тэсла» дакладна будзе па-за канкурэнцыяй. Я то быў упэўнены, што яна і так недасягальная для іншых. Але спадар Маск хіба лепш ведае. І, доўга не гандлюючыся, адслюнявіў мне добрую касу. Аднаму і несці было не так лёгка.

А то дзе я ўзяў бы такія грошы?

Вось я першыя пяць мільёнаў з таго ганарару і заплаціў за мажлівасць павячэраць з Дональдам Трампам. Хоць быў зусім не галодны. Упэўнены, што кожны так зрабіў бы на маім месцы. Усякі сумленны чалавек, калі раптам возьме дзесь пяць мільёнаў, мусіць заплаціць за такую вячэру гэтую нязначную ў параўнанні з падзеяй суму. Раю ўсім зрабіць так жа, як і я. Не пашкадуеце.

У іх ёсць такая праграма там, у Белым Доме. Вячэра з прэзідэнтам называецца. Плаціш тыя мільёны, і можаш нават свае пажаданні наконт меню выказаць. Мне то ўсё роўна было, чым закусваць. Прызвычаены да ўсяго. Галоўнае ў маім меню быў віскі «Джэк Дэніэлс». Ну, ці хоць «Кентукі» які, калі «Дэніэлс» для іх задорага. Я не нахабнічаў. Але каб арыгінальны, не падробку якую падсунулі, як у нас, бывае, купіш.

А з закускі я настаяў на клёцках, скабах і бульбяных блінах з фаршам. Не для сябе, вядома ж. Я такога з дзяцінства наеўся да адвалу. Проста хацеў, каб і Трамп, і Вэнс таксама паспыталі сапраўднай беларускай ежы. Калі ім яшчэ прыйдзецца. На фастфудах сядзяць хіба, з іх працоўным графікам.

З гэтай жа прычыны настаяў, каб на халоднае было нарэзанае сала з цыбуляй, паляндвіца падсушаная і каўбаса пальцам піханая.

Хацеў яшчэ галубцы прапанаваць. Але неяк назва гэтага блюда не ўпісвалася ў сур'ёзнасць кампаніі. Думаю, невядома яшчэ як перакладуць на ангельскую мову. Тлумачся пасля. А так то ежа смачная.

Прэзідэнт быў з жонкай Міланьяй. Прадстаўнічыя абодва, статныя, як з карціны знятыя. Высокія, апранутыя з іголкі. Ну і я ў гарнітуры, з гальштукам. Не лох жа які. Ведаю, куды прыйшоў. Толькі вось сандалі старыя. Ну, тут ужо нічога не зробіш.

Дарэчы, да сандаляў ніхто не прычапіўся, што не па дрэс-коду абуўся. Напэўна ведаюць, што ў мяне ногі пакалечаныя і іншага не магу. Я тады зразумеў, што разведка ў іх сапраўды добра працуе, як швейцарскі гадзіннік мінулага стагоддзя. Ці як швейная машынка «Зінгер», але ўсё таго ж мінулага стагоддзя. Усё ведаюць, заразы.

І Джэй Дзі Вэнс са сваёй другой паловай прыйшлі пазней. Толькі перакладчык з ангельскай на беларускую і наадварот, Курт Вулхайзер, быў адзін.

Я яго як убачыў, усцешыўся, нібыта Ілон Маск мне ганарар павялічыў. Ён калісьці прыязджаў да нас беларускую мову вывучаць яшчэ ці то ў канцы васмідзясятых, ці то ў пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Даўно ўжо. Але ж мы па Гародні накапіцілі тады! Я яго і да сябе дахаты запрашаў, смажанымі курамі карміў. А жыў тады ў інтэрнаце. То Курт вельмі здзіўляўся, у якім мінімалізме могуць жыць і працаваць нашыя навукоўцы. З тае пары не бачыліся ні разу, а тут такая неспадзяванка.

Мы з Куртам як палезлі ва ўспаміны, што іншыя з нас смяяліся, як з дзяцей пандаў у заапарку. А пасля разгаварыўся з Вэнсам. І ён аказаўся невераргодна разумны чалавек. Першым зразумеў, што ў нас з ім агульнага. Тое, што служылі ў войску, я ў савецкім, ён у амерыканскім, і што дзеўкі нашыя нас чакалі, бо яшчэ са школьнай парты былі заказаныя, гэта ўсё толькі знешнія падабенствы.

— Ты, Віктар, — сказаў ён мне, — вельмі цудоўны сябра і партнёр. Такіх днём з агнём не знойдзеш. Бо кожны прыдурак у нумар адзін лезе пры першым жа шанцы, хоць і да нумару тры не дацягвае. Рылам не выйшаў, а ў начальнікі пхнецца. А такія, як мы, ведаем, дзе большую карысць справе можам прынесці.

Вось жа можа сказаць, каб яго, дык можа. А пасля дадаў:

— А яшчэ мы добра знаем, што ў гэтым жыцці можна плыць або супраць цячэння, або супраць сумлення. Выбіраем першае.

І так шматзначна мне ў вочы паглядзеў, што я ўсё зразумеў. Вось як у ваду глядзеў — у яго вочы. Умее ён без слоў данесці свае думкі. Умее, і ўсё тут.

А пасля і сам Дональд Трамп загаварыў са мной, як я трэцюю глынуў нагбом. Дэманстратыўна так глынуў, нават тэатральна, рэзка, па-нашаму. Ён то не п'е ўвогуле. Не паверыце, але гэта праўда. Я на свае вочы бачыў і магу засведчыць. Не п'е ад слова зусім.

Ён, відаць, спалохаўся, што я накуляюся раней часу, і размова не атрымаецца.

Ага! Што там мне стане ад некалькіх кілішкаў?! Яны ў іх увогуле маленькія, толькі палец усунуць, аблізаць, і няма нічога. Нават паху.

Я то першым не рызыкнуў пачынаць размову. Што ж я, дурны, думаеце? Пратакол. То пакуль я не паспеў нахіліцца, ён кажа:

— Пра штó, Віктар, пагаварыць са мной хочаш? Не паверу, што ты выкінуў пяць мільёнаў проста каб налізацца тут віскара.

— Пра Беларусь пагаварыць хачу, — сказаў я так цвёрда, што сцены Мар-а-лага пазайздросцілі такой цвёрдасці.

— Я так і знаў, — сказаў прэзідэнт і паціснуў мне руку.

Поціск быў моцны, нібы пастка на мядзведзя. Але прыяцельскі. Як у сяброў.

Ну і я прыціснуў далонь так, у трэць сілы. Каб і моц паказаць, і службу бяспекі не напалохаць. А то ў гэтых амерыканцаў спачатку страляюць, а пасля пытаюцца.

Прэзідэнт усміхнуўся цёпла, па-прыяцельску. Мы размаўлялі аж да ранку. Ужо пеўні праралі тры разы і голас сарвалі, а ён усё цікавіўся маёй думкай, як беларусы жылі пры Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, пры Рэчы Паспалітай, пад час Расійкай імперыі, пры СССР. Як я нібыта сам жыў ва ўсе гэтыя перыяды і менавіта там. А можа і жыў. Хто яго ведае.

Аднекуль жа ёсць прывязанасць да гэтай зямелькі.

Вельмі амерыканскі лідэр ангажаваўся новым перыядам Рэспублікі Беларусь. Адначасна з гэтым пра Полацкае і Тураўскае княствы ўзгадаў. Доўга пра Наваградак распытваў. Можа таму, што радня яго зяця аднекуль адтуль. А можа і што важнейшае мае на ўвазе. Не скажу дакладна.

Я быў здзіўлены яго ведамі. І памяццю. А ён нібыта перахапіў мае думкі.

— Добрая памяць — гэта вялікае пакаранне, — заявіў так.

Вось гэта заява дык заява. Такога і з бутэлькай не адразу зразумееш.

А потым кажа:

— Не хвалюйся, Віктар. Усё з тваёй Радзімай будзе добра. Гэта я табе кажу. А я брахаць не прывык. Як сказаў, так і будзе.

І Вэнс, гляджу, уздыхнуў з палёгкай. Так яму, відаць, хацелася пачуць гэта. Раней ажбыў трошкі напружаны, як канапная спружына. А тут аж выпрастаўся, стаў яшчэ вышэйшы.

— Адкуль такая ўпэўненасць? — Пытаю. — Хоць намякні, ці што.

— Усё ты хочаш ведаць раней часу, — не вытрымаў суразмоўца. — Нельга праскочыць я́му ў два скокі. А на адзін скок сілу трэба мець адпаведную.

Мне падалося, крыху нервова сказаў, аж нагой тупнуў. Ну, за цэлы ж вечар не выпіў ні грама. Тут кожны можа сарвацца. Людзі ж не жалезныя.

— Ты, галоўнае, займайся сваім, літаратурай, напрыклад, — працягваў прэзідэнт. — А з іншым мы неяк самі. Ну, хіба ўжо зусім не будзем спраўляцца, то тады звернемся па дапамогу.

— Літаратура цяпер у вялікім даўгу перад жыццём, — падтрымаў яго Джэй Дзі Вэнс. — Бо і блізка не адлюстроўвае ўсе яго хібы і заганы.

Я заўважыў, што ён заўсёды падтрымлівай свайго кіраўніка. Заўсёды. Што б той ні сказаў.

— Так, — пагадзіўся і кіраўнік з падначаленым. — Жыццё, як гэта не парадаксальна гучыць, ужо намнога абагнала літаратуру па колькасці сюжэтаў. А вы, літаратары, не паспяваеце. Прапісныя ісціны паўтараеце, у лепшым выпадку. Папа Рымскі і без нас у Бога верыць. Колькі ўсяго навокал! Думайце, калі ёсць чым. Пошук прыгожага і ісціны ўжо само па сабе ўзнагарода. Гатовыя сцэнары з жыцця ўзяць не можаце. Нават прыдумваць нічога не трэба.

Мяне гэта крыху заела, аж відэлец сціснуў левай рукой. Хоць і праўду ж сказаў прэзідэнт. Але я ўсё ж адрэзаў цвёрда:

— Давай дамовімся так, — кажу. — Я абяцаю не лезці ў вашыя справы, а вы не вучыце мяне літаратуры. Па руках?!

І анекдот расказаў, як Мойша прадаваў семкі на прыступках Манхэтанскага банка. Да яго падышоў Ізя і просіць пазычыць дзесяць даляраў. А Мойша кажа, што і рады быў бы аказаць такую паслугу земляку, але ў яго з Манхэтанскім банкам дамова. Банк не стварае Мойшу канкурэнцыю ў гандлю семкамі, а Мойша за гэта абяцае не даваць нікому крэдыты і пазыкі.

Анекдот спадабаўся. Нават сур'ёзная да гэтага моманту Меланья заззяла, асвятліўшы залаты інтэр'ер Мар-а-лага белым бляскам усмешкі.

А золата там і праўда зашмат, як на мой густ. Я нават стаў падазраваць амерыканскага лідэра ў тайнай прыхільнасці да нашага праваслаўя.

— А яшчэ з літаратуры пражыць цяжкавата, — не вытрымаў я.

Не люблю хныкаць і скардзіцца, але тут ці атмасфера была вельмі сяброўская, ці сапраўды віскі не падробленым аказаўся.

— Я вось такі важны раман напісаў, а выдаць яго ніяк не магу. Грошай не ведаю, дзе ўзяць, — дадаў.

— Нічога, я скажу Ілану, каб купіў у цябе яшчэ і другое вынаходніцтва, якое ты па сваёй прыроднай сціпласці не прапанаваў яму адразу, — супакоіў мяне амерыканскі лідар. — Ну, твой гравітацыйны перпетум мобіль. Ці як ты яго там называеш? Маск добра заплаціць. Грошай у яго навалам, як у дэмакратаў падвойных бюлетэняў для галасавання. І не скупы ён. Так што не хвалюйся.

А ў мяне рот ад здзіўлення раскрыўся, як паддувала ў вясковай печцы. Усё ведаюць, халера іх вазьмі. І пра маё вялікшае вынаходніцтва, якое трымаў у сакрэце нават ад самога сябе. Хто ўжо, думаю, данёс? Ну не я ж. Я такімі рэчамі не займаюся. А кажуць, што службы ў іх злёгку здэградавалі. Хрэн там. Усё чыкі-пукі.

А пасля амерыканскі прэзідэнт нечакана расчуліўся і вельмі шмат чаго мне распавёў. Я паверыць не мог.

— Гэта сон, — кажу яму. — Гэта сон, бо па-іншаму мая логіка не можа ўсё ўвязаць. А логіка ў мяне — дай Божа кожнаму.

— Калі сон, дык прачынайся, — гаворыць ён.

І я прачнуўся. А як было не паслухацца. Прэзідэнт усё ж. Кіраўнік самай магутнай краіны свету. Не маёй, вядома ж. У мяне ж беларускае грамадзянства, а не амерыканскае. І тым не менш… Павагу нейкую трэба мець да такога чалавека.

Ляжу і думаю, сапраўды гэта быў сон, ці не. Ну ясна, што сон. У мяне ж няма пяць мільёнаў за вячэру з прэзідэнтам заплаціць. Логіка. Будзеце смяяцца, але ў мяне і аднаго мільёна няма.

А шкада.

Трэба ж, каб такое прыснілася. Тут галоўнае не пачынаць моцна разбірацца. Бо той, хто пачаў разбірацца ў тым, што адбываецца, ужо крыху параноік. А хто разабраўся, то гэта ўжо псіх.

І тым не менш, мне асабіста Дональд Трамп шмат чаго расказаў. Хоць і ў сне. Але я ўпэўнены, што ён і там слоў на вецер не кідаў. Ну не такі гэта чалавек, каб пустое несці. Не такі.

Я б мог падзяліцца яго развагамі. Але задарма — то не. Гэта ж каштуе ажно пяць мільёнаў. Скідвайцеся, і я яшчэ раз падам заяўку на тую вячэру. Запатрабую прамую трансляцыю нашай размовы.

Можаце нават падрыхтаваць пытанні. Усе задам, якія скажаце. Гарантыі даю. А мае гарантыі — бетон.

А за дарма, то не.

Бо галоўнае, што я засвоіў з размовы з прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі, гэта тое, што за ўсё ў гэтым свеце трэба плаціць.

# Любоў уваскрэсне



Людміла ХЕЙДАРАВА

***

*A. R.*

*Мой друг...*
*Паэт —*
*не болей, чым вакзал*
*без часу,*
*без раскладу,*
*без дарогі,*
*дзе аб парог*
*не выціраюць ногі,*
*а калі шчыра,*
*збіты ўсе парогі.*
*Вакзал...*

**Забудзь. І хто табе сказаў?!**

*Паэт, мой друг,*
*не болей, чым базар,*
*дзе прадаюць*
*за гордымі радкамі*
*на сэрцы і за пазухаю*
*камень,*
*дзе ўсё на коне —*
*свет і драбяза,*
*дзе часам шчырасць —*
*горай ад ляза.*
*Базар...*
*Не вер.*
*І хто табе сказаў?!*
*Паэт не больш,*
*чым Божая сляза...*

**Танец любові**

*Першы, хто паведаміў*
*сваёй смяшлівай сястрычцы,*
*што яна прыгожая, дзе ты?*
*Вее сіверам ад твайго крыжа.*
*Бог з Табой!*
*Танчу з Паўночным ззяннем*
*над тваімі дарогамі.*
*Трэцякласнік,*
*які прызначыў спатканне той,*
*да якой сеў за адну парту...*
*І цяпер там*
*няма нічога вышэйшага*
*ад чыгуначнага насыпу з мастом.*
*Бог з Табой!*
*Танчу з пранізлівым ветрам*
*між пралётаў маста*
*над стромай плынню*
*маёй Бярэзіны...*
*Той, хто нахіліўся*
*ў палову роста,*
*каб павесці*
*нязграбную дзяўчынку*
*ў блізкім танцы*
*на школьным ранішніку.*
*Пяць гадоў расла*
*да твайго пацалунка...*
*Бог з Табой!*
*Танчу са снегірамі*
*на зіхоткім голлі*
*аснежанага саду...*
*Ты, хто падараваў*
*мне сына...*
*Бог з Табой!*
*Танчу ў безданях сэрца*
*неўтаймоўны танец маці...*
*Юнак,*
*які ля зорнага лясного возера*
*назваў аголеную дзяўчыну*
*Багіняй Любові...*
*Дзе цяпер яны,*
*ручнікі нашых заручынаў?..*
*Бог з Табой!*



Фота Ст. ПРУДСКАГА

*...Танчу з золкамі*
*на палотнах,*
*што выбельваюць*
*ранішнія росы...*
*...Танчу са стракозамі*
*пад спеў салаўёў*
*сярод пражэрлівых,*
*гарластых жаб...*
*...Танчу з дажджом*
*сярод гронак мокрага,*
*як і мой твар,*
*бэзу...*
*...Танчу з небам,*
*якое кружыцца*
*над тваёй галавой...*
*...Танчу сярод маіх*
*ліхаманкавых вачэй,*
*скіраваных у твой пусты бок...*

**Мы — беларусы**

*«Exegi monumentum» —*
*я помнік узвёў (лац.).*
***Квінт Гарацый Флак***

*З нас кожны ўзводзіць помнік у народзе!*
*Над ім не ўладныя прасторы і часы,*
*ён з зорамі над цемрай узыходзіць,*
*ён з сонцам узнімаецца з расы,*
*каб полым слова нашага не згаснуў —*
*ён спеўны, ён журботны, шапаткі,*
*у красках ён, як вочы дзетак, ясных,*
*і першыя вясновыя шпакі*
*лятуць у ім, і коткі гострацъ кіпці,*
*і певень б'е крыламі на зары,*
*паўсюдны ён, куды пагляд ні кіньце,*
*адкрыты ўсім — на саменькім зыры! —*
*ён рык зуброў, грымоты навальніцы,*
*уплецены ў купальскія вянкі,*
*ён звонам урачыстым са званіцы*
*зрываецца ў наступныя вякі,*
*вада нагбом — сцюдзёная, хмяльная,*
*пакладзенае зернейка ў раллю —*
*ён цішыня на золаку, якая*
*яднае ў свеце неба і зямлю.*
*Пульсуе ў ім, не ведаючы зводу,*
*святло сусвету, час і наша кроў.*
*Мы пакідаем помнік свой народу —*
*сваё жыццё, свой плён, сваю любоў.*

**Верш удзячнасці Пімену Панчанку**

*І страшна падумаць,*
*і страшна паверыць,*
*ва ўсё,*
*што было між людзьмі.*
*І што будзе?*
*І страшна,*
*як б'ецца аголена сэрца,*
*і страшна,*
*як б'юць па агаленым сэрцы,*
*якое з любоўю*
*аддадзена людзям.*

*Абпалена горла*
*пакутаю песні.*
*Як можна?!*
*Не пляскайце*
*полымю ў ладкі!*
*Хвіліну маўчання! —*
*І сэрца ўваскрэсне,*
*любоў уваскрэсне.*

*І ўбачаць нашчадкі:*
*як бацька*
*гатовы быў*
*сына праклясці,*
*як рвалі мы жылы,*
*як рвалі нам нервы,*
*як страшна было —*
*узляцець, а не ўпасці,*
*як мы адраджаліся*
*Сорамам з Гневам.*

**Памяці Васіля Быкава**

*«Дабрата — таксама зброя».*
***Васіль Быкаў*** *(«Мёртвым не баліць»).*

*У Радзімы ўсе сыны —*
*як найлюбшы, то ў ізгоях!*
*Воем стаўся ў час вайны —*
*праз жыццё застаўся воем.*

*Воем стаўся ў час вайны...*
*Лейтэнанты — Бог мой! — дзеці!*
*Не паменела маны*
*з тых часоў на белым свеце.*

*Ды і праўду адшукаць*
*на зямлі не палягчэла.*
*Ён адзін стаяў, як раць,*
*проці ўлады адзічэлых.*

*Каб пакінуць на вякі*
*запаветнае ад воя,*
*ведай, людзі-дзівакі:*
*дабрата — таксама зброя!*

*Дзён імклівых чарада...*
*Хай на яве, а не ў мроях*
*на зямлі адзінай зброяй*
*застанецца дабрата!*

***

*За сонцам — след у след*
*зыходзяць нашы дні...*
*Адкуль ім знаць? — Не ведаюць яны,*
*што сонца — у нявolі ў нас саміх...*

***

*Апокрыў жоўты над маёй журбой.*
*Між абразамі перад тварам смерці*
*усмешка птушкай спуджанай біецца.*
*І што жыццё? Уступ, адзіна скерца*
*да вечнасці. Мне страшна — не з табой!*
*Камечу шаль, каб не скамечыць сэрца...*

***

*Заміж пупышак — смочак слівы,*
*пачуццяў, думак, слоў завея,*
*душа і вочы — насцеж...*
*Хіба ўсміхалася б табе я,*
*калі б была шчаслівай?*
*Аднак і ты — не шчасце...*

***

*Восень няверная...*
*Месіва лісцяў, пачуццяў*
*сумам адмерана.*
*Ветру вучуся.*
*Імчуся.*
*Туды, дзе ні шляхоў, ні сірэн.*
*Праверана!*
*Свабода — у палоне вен*
*і вуснаў.*
*Прэч, вусціш!*
*Матор не глушу.*
*Імчуся!*
*...Восень.*
*Куды мне падзець душу?..*

**Прыступкі да храма святога духа**

*S. T.*

*

*...на зорным гарышчы — каты і скразняк*
*а ты завітаў — і знячэўку світае*
*і нехта зямлю пад нагамі хістае*
*і мовіць баюся што-небудзь не так...*

*

*Быў дзень, як дзень. І той на зыходзе.*
*А з тэлефона голас густы:*
*— Памятаеш?.. XII-е стагоддзе...*
*Царква... На прыступках я і ты...*

*— Чакай! Не веру! На якім ты свеце?..*
*Хаця не важна, і я на тым...*
*— Ты памятаеш, як б'ецца маё сэрца?*
*Паслухай...*

***

*Няхай ты проста лёсу шал —*
*нябёс сягаючы, душа гарыць.*
*Прашу я, не спяшай!..*

*...А ты смяешся...*

*Ноч-крумкачыха не ўцячэ!*
*Я п'ю любоў тваіх вачэй,*
*Прашу, пабудзь са мной яшчэ!..*

*...А ты — смяешся...*

# Прыгажуня

## Словы пра тую, што супрацьстаіць брыдкім людзям



Адам ГЛОБУС

### Вершы

Першая прыкмета прыгажуні — ёй прысвячаюць і дасылаюць вершы, самыя розныя, ад графаманскіх да геніяльных. Якасць, вядома, мае значэнне, але сам факт наяўнасці вершаў больш важны за іх узровень. Без вершаў ад прыхільнікаў дзяўчына не зробіцца сапраўднай прыгажуняй. Здавалася б, такая дробязь — верш з прысвячэннем, але без яго ў прыгажуні не бяруць.

### Уборы

Другая прыкмета прыгажуні — добрыя ўборы. Прыгажуня заўсёды стыльна апранутая. Пра выхады ў свет можна і не казаць. Яна добра прыбраная і на пляжы ў бікіні. Нават на нудзісцкім пляжы прыгажуня выглядае выдатна прыбранай за кошт загару і фрызуры, чорных акуляраў і дагледжаных пазногцяў, усмешкі і манкасці.

### Смех

Смейся, смейся, прыгажуня... І яна смяецца. Смяецца, каб ёй куплялі пачастункі і падарункі. Куплялі пірожнае ў выглядзе бэзавага сэрца. Куплялі латэ з пяшчотным шумком. Куплялі тры пары чаравікаў у адной краме, футра з залатой лісы, кватэру з французскім гаўбцом над сталічным праспектам, машыну колеру шампанскага... Прыгажуня смяецца і смяецца, ёй купляюць і купляюць. Прыгажуня смяецца, каб падарункі і пачастункі ніколі не сканчаліся.

### Прыманне

Можна і не разумець, але лёгка прыняць: калі прыгажуня расфарбоўвае ўсе, колькі ёсць, пазногці, калі яна фарбуе валасы, прабівае дзірачкі ў мочках вушэй, пемзай паліруе пяты, ходзіць, пахістваючыся, на высачэзных абцасах, адбельвае і так белыя зубы, чырвоніць вусны, палюе ў крамах на зніжкі, жадае ў наступным жыцці прафесійна пазаймацца плаваннем, калі голіць падпахі, ногі і похву.

### Каробкі

Не здзіўлю, сказаўшы: прыгажуня страх як любіць каробкі. Яна скарбонкі таксама любіць, але ж іх таксама можна залічыць у шэрагі living рознафарматных каробак. Асобным і самым шматлікім атрадам каробак у прыгажуні ты знойдзеш каробкі з абуткам і з-пад абутку. Панталеткі ці чаравічкі даўно знасіліся і выправіліся ў абутковы рай, а каробкі з-пад тых чаравікаў і панталетак усё яшчэ захоўваюцца ў прыгажуні, бо ў іх так добра пачуваюцца шалікі, хусткі і хустачкі. Скажу адразу, каб не згубіцца ў дробных дэталях і ўдакладненнях, каб не заблукаць у гэтым лабірынце: з каробак, якія захоўваюцца ў дзесяці прыгажунь, можна пабудаваць ніштаваты хмарачос. Можна інакш глянуць на каробкі, што купляе, збірае і дагледзе прыгажуня: яна выбудоўвае хмарачос прыгажунскага жыцця. І гэта я яшчэ не бяру ў разлік яе бутэлечкі, слоікі і тумбачкі з куфэркамі ды шафамі.

### Апрананне

Калі засяродзіцца і ўслухацца ў сказанае прыгажуняй — «Я апранаюся дзеля цябе!», можна пачуць і праўдзівае — «Я апранаюся дзеля сябе!», бо дзеля цябе яна распранаецца і пераапранаецца, а не апранаецца.

### Густ

Каб падтрымліваць высокі статус, прыгажуні неабходны густ. Большасць прэтэндэнтак на званне прыгажуні не дабіраюць густу, яны ідуць да ідэала, але не даходзяць да яго. Ёсць і такія, што так хутка набліжаюцца да густоўнасці, што не заўважаюць, як яе прамінаюць. Можна казаць, што лепей не дайсці, чым перайсці запаветную кропку, можна казаць адваротнае і дадаваць, што адымаць лягчэй, чым дадаваць, маўляў, адкінецца ўсё лішняе і застанецца чыстая прыгажосць. Але перабор, як і недабор, па вялікім рахунку — і тое ж. Прыгажуня ведае, куды ісці, куды ляцець, куды плыць і дзе трэба спыніцца. Ведае, бо мае густ. Прыгажуня без густу — што мастак без таленту, вучоны без ведаў, а святар без веры. Густ патрэбны прыгажуні, каб не жыць бляклай і не стаць вульгарнай. Ці можна прыдбаць густ? Цяжка, бо трэба мець пэўныя схільнасці і дадзеныя ад прыроды, але апранацца густоўна можна і вывучыцца, прынамсі з гэтага варта пачынаць.

### Базар

На базары прыгажуню ўсе называюць прыгажуняй. Гэта гучыць натуральна і праўдзіва. У іншых месцах можа ўзнікнуць недавер, калі хтосьці прыгажуню назаве прыгажуняй, а на базары такога недаверу няма. Сярод сакавітай садавіны і выставачнай гародніны, сярод грашовых купюр і бліскучых манетак, у стракатым і гаманкім натоўпе прыгажуня зззяе, і гэтак прывабна, што гандляры з гандляркамі абсыпаюць яе гучнымі кампліментамі і запрашаюць да прылаўкаў, каб пачаставаць смакоцямі. Калі прыгажуня пакаштуе вінаград і ўсе гэта ўбачаць, дык такі вінаград усім адразу захочацца купіць. Гандляркі з гандлярамі ведаюць моц прыгажосці, яны гатовыя раскашэльвацца, гатовыя рабіць шыкоўныя зніжкі, каб прыгажуня пастаяла каля іх прылаўка, каб яна пахваліла іх тавар. Прыгажуня каштуе і хваліць, усміхаецца і развітваецца, яна ідзе па базары, як каралева. Дзе-дзе, а на базары прыгажосць цэняць высока, вельмі высока.

### Фотаздымкі

Прыгажуня любіць фатаграфавацца і цэніць фотаздымкі са сваім эфектным абліччам; але далёка не ўсе з такіх фотаздымкаў ёй падабаюцца. Няма большага цэнзара для фотамастака, як прыгажуня са сваім бачаннем патрэбнага і непатрэбнага. Калі ты выставіш яе фота, не папытаўшыся, можаш атрымаць на арэхі так, што неба пацямнее, страціць колеры і зробіцца памерам з аўчынку, як кажа наш народ. Пасля фотасесіі лепей паказаць ёй увесь наробак, параіцца з прыгажуняй, пераканаць яе ў тым, што сесія атрымалася ўдалая, і на апошніх здымках яна выглядае больш ярка і прывабна, чым на папярэдніх. Яшчэ важна казаць прыгажуні, што ўсе, хто крытыкуе і ганіць яе здымкі — зайздроснікі, правінцыйныя невукі, хаблы і падслепаватыя дурні, якія не могуць убачыць, ацаніць і ўхваліць прыгажосць. Збольшага гэтак і ёсць на дзевяноста адсоткаў, а мо і на дзевяноста пяць. Калі крытыку зграі зайздроснікаў (кожная прыгажуня мае зграю зайздроснікаў і зайздросніц!) можна і не слухаць, дык да крытыкі і заўваг самой прыгажуні прыслухоўвацца варта, нават калі табе падаецца, што яна не мае рацыі.



Фота seasonsinstilettos.com

### Дараванне

Каму-каму, а сабе ўсё можна даравaць... Хіба не? Здараюцца і выключныя выпадкі, калі пачынаеш займацца самаедствам. Шкодны занятак. Ды што зробіш, калі толькі ты і ведаеш пра сваю хібу. Прыгажуня таксама можа на сябе разззлавацца, можа сама на сябе наракаць, можа нават на сябе насварыцца... Нават, п'ючы каву, скажа: «Не магу сабе дараваць! Вось не магу дараваць і ўсё! Цэлы месяц я збіралася купіць шэрую спадніцу. Заходзіла ў краму, прыглядалася, прымервалася, прыцэньвалася. Грошы адклала на тую спадніцу. Прыкінула, з чым і куды я буду ў ёй хадзіць. Сабралася купляць, прыйшла, а спадніцы маёй і няма. Купілі, забралі, знеслі. Уяві мой стан... Трэба было адразу яе хапаць, а не збірацца ў паход па спадніцу цэлы месяц. Гэта ж не футра, і не залатыя завушніцы са смарагдамі, і не сервіз на шэсць персон. Простая прыемна-шэрая сціплая спадніца. Цяпер я без яе, і ўсе мае прыдумкі з апрананнямі кату пад хвост! Не дарую сабе... Не да-ру-ю... Не магу даравaць».

### Дакрананні

Прыгажуня не любіць, калі да яе дакранаюцца. Яно і зразумела, бо шмат ахвочых яшчэ раз спраўдзіць відавочнае і адказаць на пытанне, якое ўзнікае ў часе сустрэчы з незвычайным: ці сапраўды гэта жывы чалавек? ці не прывід побач з табою? Рука ж сама цягнецца да прыгожай постаці... Таму і даводзіцца прыгажуні трымаць паміж сабой ды іншымі большую дыстанцыю, чым трымаюць яе простыя людзі. Таму і рэакцыя на выпадковае дакрананне ў прыгажуні вокамгненная, агрэсіўная і пякучая. Таму і табе трэба трымацца ад прыгажуні на пэўнай адлегласці, калі ты не можаш ёй нешта вартае прапанаваць. Напрыклад, панасіць яе на руках. Прыгажуня любіць, калі яе носяць на руках. Дакладна любіць. Зразумела, трэба разлічыць сілы, трэба трэніравацца, трэба стрымаць дадзенае абяцанне — несці прыгажуню на руках.

### Таемны пакой

У прыгажуні ёсць таемны пакой... Скажы ты мне, якая гэта прыгажуня, калі яна не мае таемнага пакоя? Ты запярэчыш, маўляў, і бедныя дзяўчаты бываюць такімі прыгожымі, што вачэй не адвядзеш. Так, бываюць. Тады скажу, што гэты таемны пакой знаходзіцца ў іх мроях, яны мараць пра яго. Цікава — у мроях таемны пакой прыгажуні больш казачны і ачаравальны, чым у рэальнасці. У такім таемным пакоі можа жыць ігуана. Акрамя ігуаны там стаіць масажны стол, які сам робіць масаж усяго цела. Каля таго стала ёсць маленечкая тумбачка, а ў ёй хаваюцца лекі ад усіх хваробаў. Прыгажуня кажа тумбачцы пра хваробу, адчыняе, а там яе ўжо чакаюць лекі з інструкцыяй па выкарыстанні. Ёсць у таемным пакоі і лядоўня, у якой можна замовіць пачастунак. Ёсць крэсла з пледам, у якое можна сесці і чытаць ці глядзець кіно «Барбі», можна і любое іншае кіно глядзець. У люстраной шафы, якая стаіць побач з крэслам, можна замовіць вопратку, абутак і ўпрыгожванні... У таемнага пакоя прыгажуні ёсць адно-адзінае абмежаванне, яна нікому не можа яго паказаць, расказваць пра яго можна колькі заўгодна, а паказаць нельга... Нават найлепшай сяброўцы нельга, нават каханаму нельга... Бо пакажаш, і таемны пакой прападзе, разам з чароўнымі рэчамі прападзе, знікне ўсё, і нават доўгахвостая ігуана.

### Дабрыня

Сярод прыгажунь, якія трапляліся на маіх шляхах, не было добрых. Разумныя, таленавітыя, артыстычныя, здольныя, заможныя і нават шчодрыя былі; а каб добрая — дык і не сустрэў. Прыгажуня і не павінна быць добрай, бо якраз выбітную прыгажосць ёй даводзіцца абараняць, адстойваць і падкрэсліваць. Таму прыгажуня рашучая, катэгарычная, падступная. Прыгажуні не пасуюць дабрыня і лагоднасць, як ёй не пасуюць атопкі і лахманы. У душы прыгажуні заўжды знойдзецца месца разліку і прахалодзе, бо яна пагодзіцца з Канфуцыем, які сказаў: «Я не бачыў, каб людзі любілі дабрыню так, як яны любяць прыгажосць». Прыгажуня ведае, што яе любяць за знешнасць, і яна цэніць гэткую любоў.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Прыгажуня

## Словы пра тую, што супрацьстаіць брыдкім людзям

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

### Марозіва

Прыгажуня любіць марозіва. Яна шмат што любіць: цёплае мора, шыкоўную рэстарацыю, футра, завушніцы з дыяментамі, пярсцёнкі з рубінамі, сукенкі з птушкамі, шаўковыя хустачкі… Усё гэтае «шмат» мусіць быць падораным. Яна любіць і набытае, але падоранае любіцца мацней. Праўда, усё гэта каштоўнае і дарагое да нечага абавязвае. Іншая рэч —марозіва: яно не абавязвае. Яно вяртае ў дзяцінства, калі цябе пачаставалі, а ты за пачастунак, акрамя ціхага «дзякуй», нічога не абавязаны казаць і рабіць. Таму запрашэнне прыгажуні на марозіва — першы правільны крок у вашых стасунках. Дарэчы, не толькі першы правільны, гэты крок правільны заўсёды. Яшчэ адна выдатная дэталь у запрашэнні на марозіва: ты сам можаш і не есці гэтага марозіва. Бацькі, калі частуюць марозівам дзяцей, самі яго і не ядуць. Вось і ты можаш не есці… Твая прыгажуня ператворыцца на дзесяць хвілін у дзяўчынку з марозівам. Ты будзеш ёю любавацца, а любаванне прыгажуняй ажно цэлых дзесяць хвілін каштуе шмат, не сумнявайся.

### Абутак

Набярыся нахабства і папытай у прыгажуні: «Колькі ў цябе абутку?» Можаш не спадзявацца на дакладную лічбу, бо ты яе ніколі не атрымаеш. Яна нават не ведае, ці мала ці многа ў яе таго абутку; бо, сказаўшы, што многа, яна мусіць адмовіцца ад чарговага падарожжа ў абутковую краму, запланаванага на панядзелак, а, сказаўшы, што мала, мае злётаць у тую краму ўжо ў нядзелю. Так ты і не дазнаешся, колькі ў яе каробках чаравікаў, ботаў, лодачак, пантофляў, лабутэнаў, красовак і кедаў. Дарэчы, угі ў яе таксама ёсць, калі ты засумняваўся. Можна сказаць, што ў прыгажуні з патрэбнага абутку ёсць усё неабходнае. Зрэшты, яна так не лічыць, але яна памыляецца… Ёсць усё. Я кажу. Але, калі раптам табе заманецца нешта-нейкае дадаць у абутковы свет прыгажуні, падары ёй пластыр. Гэта крыху ў стылі чорнага гумару ад Данііла Хармса, але прыгажуня высока ацэніць тваё пачуццё прыгожага. Там, дзе шмат абутку, там і шмат пацёртасцяў на нагах. Што можа быць лепшым для такіх пацёртасцяў? Правільна… Дарагі пластыр. Падары прыгажуні ўпакоўку і атрымай усмешку ўдзячнасці.

### Лепшы свет

У гэтым свеце прыгажуня больш прыгожая, чым разумная. Прынамсі, сведкі так лічаць. Сама яна мае іншае меркаванне, маўляў, яна разумная. Быць прыгожай, а яшчэ і разумнай, а яшчэ і бландынкай — відавочны перабор у цяперашнія мульціпульцікультурныя часы. Таму прыгажуня любіць паразважаць пра лепшы свет, у якім яна з паэткай Лі Цын Джао паедзе ў паўночную Італію, праз Венецыю, на возера Кома. Там яна сустрэне філосафа Мантэня і будзе гуляць з ім у бадмінтон. Калі раптам Мантэнь будзе чымсьці неадкладна заняты, яна згуляе партыю ў бадмінтон з філосафам Вальтэрам. У лепшым свеце, які сабе ўяўляе прыгажуня, не будзе брыдкіх людзей, нават байкапісец Эзоп там выглядацьме як бог Апалон. Таму ў лепшым свеце прыгажуня збіраецца пабліскваць вострымі досціпамі і дэманстраваць на спартовых пляцоўках сваё майстэрства гульні ў бадмінтон.



### «Шкляная столь»

У прыгажуні ўсё ідзе выдатна. Усё ў яе складаецца добра, ажно на ўсе сто дваццаць адсоткаў. Калі нехта не верыць, дык можа зноў паглядзець на яе і яшчэ раз пераканацца ў яе хуткаўзлётнай паспяховасці. Заробак, вопратка, адпачынак на моры, кар'ерны рост — усё пры ёй. Захочацца нечага большага, і вось яно, гэтае большае, у планах на хуткае здзяйсненне. Заманецца прыгажуні мець залатую рыбку каля працоўнага стала, і дзіва дзівоснае — сама залатая рыбка плавае ў шараабрысным акварыуме, што стаіць на высокім сталёвым зэдліку побач са сталом. Што яшчэ? Прыгажуні не дае спакою «шкляная столь». Каб не гэтая чортава «шкляная столь», якую антыжанчыны разам з антыпрыгажунямі паставілі для прыгажунь у нашым усё яшчэ недасканалым свеце, у прыгажуні была б не адна залатая рыбка, а цэлыя тры залатыя рыбкі. Яна вартая таго, каб яе кар'ерны рост рухаўся ўтрая хутчэй, чым ён цяпер рухаецца… Карацей, ёсць у прыгажуні ідэя фікс: знайсці такі малаток, ад аднаго ўдару якога «шкляная столь» рассыплецца на дробнае зерне. Тут варта паверыць, што прыгажуня знойдзе такі малаток, не сягоння, дык заўтра яна абавязкова разаб'е «шкляную столь».

### Танец

Дзень без танца праходзіць марна… Пэўна, Ніцшэ гэта заўважыў. Можа і да Ніцшэ тое ведалі. Хутчэй за ўсё — ведалі, але мне падабаецца згадваць Ніцшэ, бо ён марыў пра з'яўленне звышчалавека. Ніцшэ быў апантаны, як сапраўдны вялікі паэт, і, як сапраўдны паэт, ён усхваляў танец. Мне засталося зрабіць простае складанне, скласці танец з прыгажуняй, каб атрымаць звышчалавека. Складаю і атрымліваю… Звышчалавек — прыгажуня ў танцы. Яна пачынае танцаваць і ператвараецца ў чараўніцу. Прыгажуня можа лёгка цябе затанцаваць, бо яна закруціць цябе, зацягне ў віхуру танца, ты закахаешся, ты правалішся ў каханне, як у вір з галавой. Выплысці з такога кахання цяжка, бо трапляеш у яго імгненна, а выплываць даводзіцца доўга — тыдні, месяцы і нават гады… Зрэшты, можна і не выплываць з віра кахання, а з віхурыстага і хуткага танца заплыць у танец павольны і ціха ў ім пагойдвацца, паціху гушкацца, як на арэлях у начным і бязлюдным парку.

### Пахіхікванне

У прыгажуні ёсць адмысловая зброя — пахіхікванне. Яна можа і крычаць і рагатаць, можа абурацца і смяяцца, можа гыркнуць і сыкаць, як самая сапраўдная гадзюка. Арсенал падобнага ўзбраення ў прыгажуні велічэзны, можна сказаць, што ён бязмежны. Ва ўсім гэтым бязмежжы вылучаецца вострае, як лязо скальпеля, пахіхікванне. У самы нечаканы момант, у самае драматычнае імгненне ты можаш пачуць гэтае яе ледзяное пахіхікванне. Яно параніць смяротна. Яго нельга забыць, нельга разбачыць і нельга расчуць, бо яно, нібыта сталёвая голка, заходзіць у самую сярэдзіну твайго збянтэжанага сэрца. Здавалася б, нейкае там кароценькае «хі-хі-хі», а боль ад яго паралюшны. Лепш бы яна лаялася, крычала, мацюкалася, чым пускала ў цябе атрутную стралу саркастычнага і зняважлівага «хі-хі-хі». Калі раптам пабачыш, што прыгажуня збіраецца пахіхікаць, усміхніся, зрабі свой твар лагодным, падрыхтуйся да ўдару — і, магчыма, страла яе пахіхіквання не пацэліць у тваё сэрца.

### Камплімент

Яна не скончыць гутарку, ажно пакуль не атрымае ад цябе камплімент. Не важна, з чаго тая гутарка пачнецца… З размовы пра надвор'е і немінучасць дажджоў пасля абеду. З пералічэння лекаў, якія маюць дапамагчы табе ад апёкаў скуры на паўднёвым сонцы. З асуджэння таленавітых актораў, якія здымаюцца ў паганых і нудных серыялах. З захаплення модным брэндам, які з'явіўся на рынку красовак. З апісанняў шэдэўраў ткацтва, пабачаных у музеі… Пачатак размовы з прыгажуняй можа быць самы розны, а вось заканчэнне мае быць аднолькавае. Ты проста абавязаны ёй сказаць, што яна цудоўна выглядае, што яе завушніцы пабліскваюць ачаравальна, што табе падабаецца яе ўсмешка… Ты мусіш прыдумляць і казаць кампліменты, ажно пакуль не пачуеш, што ёй крыху сорамна ад такога твайго захаплення. Тады можна спакойна згарнуць гутарку з прыгажуняй, бо ты маеш вялікі шанец на яе працяг.

### Люстэрка

Прыгажуня па сто разоў за дзень спраўджвае ўласную прыгажосць у люстэрку. Таму ўсё, што можна выкарыстаць у якасці люстэрка, яна, не сумнявайся, выкарыстае. Нават цябе выкарыстае, і ты не зможаш развітацца з прыгажуняй, каб не сказаць ёй пару-тройку свежых кампліментаў. Ёсць месцы, дзе вядуцца сур'ёзныя размовы з сур'ёзнымі людзьмі, у такіх месцах няма і не можа быць люстэркаў, а таму прыгажуня не любіць падобныя месцы і стараецца ў іх не трапляць. Яна шукае і наведвае месцы, дзе люстэркаў процьма, дзе царуе не шэрая сур'ёзнасць, а стракатая і палымяная весялосць.

### Курорт

Прыгажуня народжаная прыгажуняй, каб адпачываць на курортах. Калі хтосьці кажа: «Адпачнём на тым свеце!», гэта, дакладна, не пра сапраўдную прыгажуню. Яна адпачывае на нашым недасканалым свеце ў самых прывабных мясцінах. Прыгажуня ведае райскія куткі на зямлі. Бадэн, Бадэн-Бадэн і Карлс-Бадэн — цудоўныя месцы для прыгажуні ў пазаважаным веку, у маладым веку яна адпачывае на беразе Міжземнага мора… Яна шмат дзе адпачывае і любіць расказваць сяброўкам пра адпачынкі, пра любімае мора віннага колеру, пра залаты і гарачы пясок, пра якар пальмы, якім курорт чапляецца за бясхмарнае і бяздоннае неба. Сяброўкі распытваюць прыгажуню пра яе кавалераў, але на падобныя роспыты прыгажуня не адказвае, а толькі ўсміхаецца. Прыгажуня народжаная, каб адпачываць у райскіх мясцінах і прыязна ўсміхацца.

### Рэстарацыя

Прыгажуня заўсёды чакае запрашэння ў рэстарацыю. У яе на гэткі выпадак купленая ці нават пашытая на замову доўгая сукенка. Яе туфлі на высокіх абцасах чакаюць у кардоннай каробцы, у лакавай скарбонцы ляжаць завушніцы і кальe. Яшчэ ёсць памада найлепшай якасці. Ёсць сумачка адпаведнага колеру. Маецца і тэлефон цырульніцы, якая памые, падфарбуе і падправіць фрызуру. Пра лак для пазногцяў, пра воды парфумы, пра макіяж прыгажуня таксама ўсё прадумала да дробязей… Засталося атрымаць запрашэнне і даведацца назву рэстарацыі, каб хуценька зайсці на сайт, прачытаць меню і водгукі кліентаў. Змест меню не мае стаць нечаканасцю. Да паходу ў рэстарацыю прыгажуня рыхтуецца прыкладна так, як і да паходу ў оперны тэатр, а бывае, што да наведвання рэстарацыі яна рыхтуецца яшчэ больш грунтоўна і адказна, чым да паходу ў тэатр, калі гэта не прэм'ерны паказ.

### Парфума

Здаецца, простае пытанне: колькі нераспакаваных каробачак з флаконамі парфумы павінна мець прыгажуня? Адразу і не скажаш. Падумаць трэба. Памаракаваць не зашкодзіць. Падумаўшы і памаракаваўшы, я вырашыў, што іх мусіць быць чатыры… Адзін — на холад, на маразы, на зіму. Другі — на вясну сонца, вады і травы. Трэці — на лета, на цяплынь і гарачыню. Чацвёрты — на восень, на ліставей і дажджы. Прыгажуня можа мець і больш нераспакаванай парфумы. Можна нешта своеасаблівае захоўваць на якое навагодняе ці каляднае свята. Гэта ўжо неабавязковая раскоша, а мінімум — чатыры флаконы на чатыры сезоны — зіма, вясна, лета, восень.

# Мой час і край



Аляксей КАРПЕНКА

### Гіперкуб

*Нараджэнне маё не сакрэт:*
*Не прыняўшы эўклідавых правіл,*
*Хтось кубы ў адным звязку саставіў —*
*Прыгажосці вар'яцкай аб'ект,*

*Што за кожную грань меў бы куб,*
*Каб не быў параджэннем паперы...*
*Дорыць свет ваш малавымерны*
*Толькі выгін пагардлівы губ.*

*Для бялковых пачвараў няма*
*Чатырох вымярэнняў прасторы,*
*І заве мяне выдумкай хворай*
*Трохвымернага свету турма.*

*Толькі сімвал міфічны... Не стаў*
*З вамі роўным, хоць думкі й займаю...*
*Раз прысніў, як мастак распінае*
*На маім падабенстве Хрыста.*

*...Я паперу б вуглямі працяў,*
*Не чакаючы ў белай магіле*
*Тлумачэння: нашто вы стварылі*
*Непрыдатнае да быцця?*

***

*Снегу чакаем. Люляем надзею*
*На свежыя песні, на добрыя дзеі...*
*Бясснежныя вулкі суцешвае верай,*
*Схаваўшы пад маскай фарфоравай, шэрань.*
*Суцешвае верай у шчасце без меры,*
*У новыя вершы на снежнай паперы —*
*Жыццё іх напіша ў народжаным годзе...*
*Дажыўшы — пабачым.*
*Чакаем.*
*І годзе.*

***

*На по́мінках восені гразкай*
*Вятрыска ўсчынае вой...*
*Ты верыш: жыццё — гэта казка*
*Старое савы сівой.*

*П'янееш ад зімнага духу,*
*Пайшоў бы на злом галавы*
*Ў пагоні за дзівам — бо слухаў*
*Казкі сівой савы.*

*...Яна не сказала, што косткі*
*У схове надзейным дзяўбе.*
*Шмат казак кашмарных і жорсткіх*
*Рыхтуе яна для цябе.*

*Сусвет пад фарфоравай маскай*
*Хавае шнараў равы.*
*Быццё — вычварэнская казка*
*Старой вар'яткі савы.*

### Сінь калядная

*Адвядзі сябе ў сінь калядную —*
*У цямрэчы з сабой схаваць*
*Мары плоскія, друга́радныя,*
*І кашмараў нязбыўных раць.*

*Ад нары, што смярдзіць мінуўшчынай,*
*Зладзь уцёкі ў мароз начы —*
*Слабы розум, быццём раструшчаны,*
*Адзінотай спрабуй лячыць.*

*Спадзявайся дарогай дальняю*
*Супакоіць вар'яцкі дух...*
*Зразумееца прадказальнае —*
*Ты з кашмарам паўсюль удвух, —*

*Што ў нары, дзе жыццё праседжана,*
*Што ў начы, куды ўцёк з нары...*
*«Сінь калядная, шлях прыснежаны,*
*Забяры мяне, забяры!»*

***

*енк залунае шматкроць*
*смерць зойдзецца чорным пеўнем*
*куля ўкапаецца ў плоць*
*нахабна надзейна і ўпэўнена*

*пекла прызначыць нам*
*спатканне ў часах і прасторах*
*кожны свінцовы грам*
*настаўніцкі дотык гісторыі*

***

*Хай неразумныя выкрыкі птушак*
*Хтось лічыць музыкай лепшай, адзінай...*
*Слодыччу пояць вар'яцкія душы,*
*Выюць у шале вятры-муэдзіны.*

*Выюць, склікаюць сталёвыя хмары,*
*Водарам волі п'яняць наваколле —*
*«Хмары, схіліце суровыя твары!*
*Дайце сусвету асфальтавы колер,*

*Гэтакі родны для джунгляў каменных!»*
*Шалеюць вятры над асфальтавым краем,*
*Нахабна асвістваюць шэрыя сцены...*
*І песня свабодай душу спакушае.*

*Гэткаю музыкай, спевам халодным*
*Будзе суцешаны розум паўхворы,*
*З гэткаю песняй мой дух стаўся родным,*
*Гэткаю музыкай дыхае горад.*

***

*Забіўшыся сама ў сябе навек,*
*Схаваўшыся ў вар'яцтва сценах гулкіх,*
*Душа блукае па няісных брудных вулках,*
*Не ў змозе больш трываць дарэмны бег.*

***

*Горад ператкані сонным дымам.*
*Дым сцякае ў колер родных сцен.*
*Твар схаваўшы папяловым грымам,*
*Час з імгненняў пастку нам пляце.*

*І, спаймаўшы, ставіць на калені*
*Час нябогу, дурня, дзівака.*
*І ніта растрачаных імгненняў*
*Рэжа плоць, звязаўшы па руках.*

***

*Мой час і край — маё мяно.*
*Я свой, я звыклы, я паўночны.*
*Паветра мерзлага віно*
*У келіх цемры лью сяточна.*

*Не ў сытай цеплыні б сатлець*
*І не чакаць дурной пагоды —*
*І ў ценяў гушчы, і ў святле*
*Душа шукае прахалоду;*

*Не холад крохкіх ледзяшоў,*
*Але ж быцця шчымлівы дотык...*
*Нашто, куды, адкуль я йшоў —*
*Не так цікавіць ідыёта,*

*Як піць, змяшаўшы са слязой,*
*Віно паўночнага дыхання,*
*Адчуць, як вецер, бы лязо,*
*Гуляе з шыяй хмельным раннем.*

*...Калі ж упоперак хрыбта*
*Спаймаю ўдар быцця апошні,*
*Паўночны папяловы птах*
*Пад неба ў кіпцях асцярожна*

*Знясе мой прах.*



Фота Юліі ПЯТРОЎСКАЙ

# Сцяжкі на мапах



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

### Героям вайны

*Густа пахне чабор*
*ля збуцвелага крыжа Айчыны,*
*Пра якую яшчэ*
*экстрэмісцкія*
*мне сняцца сны,*
*Таму кожную ноч*
*паўстаюць гуртам перад вачыма,*
*Бы жывыя,*
*Героі*
*бясконцай вызвольнай вайны.*

*Чую іх галасы*
*скрозь зняменне паноўнай цямрэчы:*
*— Хто паверыў, што нас*
*больш няма на пакутнай зямлі?*
*Але мы не пакінулі*
*роспачна*
*свет чалавечы —*
*У малітвах і вершах*
*мы ёсць,*
*як дагэтуль былі.*

*Пазачасных святыняў*
*стаім непарушна на варце,*
*У смузе паняверкі*
*гараць нашых сэрцаў агні,*
*Нібы грозны дакор*
*сваіх продкаў разважлівым здрайцам*
*І тым, што паддаліся*
*бяздумна*
*спакуснай хлусні.*

*Бо ў паўстацкіх шыхтах,*
*на Майдане,*
*у стэпах Данбасу,*
*На Лукішкаўскім пляцы,*
*у вязніцах Шклоўскай турмы,*
*Як бы вораг ні пяўся,*
*нескаронага краю прыўкрасай*
*Не ўміраюць Героі*
*бясконцай вызвольнай вайны.*

*Вечна жыцьмуць Героі*
*бясконцай вызвольнай вайны!*

### Кеўлар, разгрузка, аўтамат

*Шчыруем пад прыцэлам смерці,*
*Аднак не павярнуць назад*
*Стаптаныя на маршах берцы,*
*Кеўлар, разгрузку[1], аўтамат.*

*Мы — стрэлкі, мы — сцяжкі на мапах*
*Ва ўтульнай зацішы штабной,*
*А ўдома млеюць сэрцы матак*
*Падчас навін з перадавой.*

*Дзе ранай на зямным абліччы*
*Штодня зацятыя гарым,*
*Пасля свае ахвяры злічым —*
*Калі сплыве свінцовы дым.*

*Ды як бы не было нам цяжка,*
*І ў зарапад, і ў снегавей*
*Уважна пазірае «Дашка»[2]*
*У бок няпрошаных гасцей.*

*Так, наша Праўда ходзіць збройнай —*
*Кеўлар, разгрузка, аўтамат, —*
*Бо, покуль Край не абаронім,*
*Для нас няма дарог назад.*

### Уцёкі

*Уцёкі нямаведама куды —*
*Зноў у дарозе менестрэль самотны,*
*Між вечарам і раніцаў рудых*
*Неўтаймаваны, а таму свабодны.*

*Ізноў з імпэтам грамадзе спяваць,*
*Якая ані каліва не цяміць,*
*Сто грам узяўшы для натхнення, рваць*
*Шаблоны, струны і душу з канцамі.*

*Заўчасна апусціць заслону шоў,*
*Насычанага гневам ды маленнем,*
*Знясіліўшыся, бы абрад прайшоў*
*Пакутлівага самаачышчэння.*

*А потым пасміхацца спакваля,*
*Выслухваючы ўдзячныя прамовы,*
*Дзе ні паўслова, што пакінуў я*
*На ласку лёсу ўсе свае любові.*

*Але навошта шкадаваць аб тым? —*
*Не вернеш анічога, анікога:*
*Было — сплыло, растала, рыхтых дым,*
*Што засталося? — Вершы і дарога.*

*Між вечарам і ранкаў, праз гады*
*Наўпрост шыбую — менестрэль самотны.*
*Уцёкі мімавольныя туды,*
*Адкуль не выправіцца ў шлях зваротны.*

### На розвіт

*Золь і жаль, і ўсмешкі бліц на ўдачу —*
*Панадворак пакідаю твой.*
*Ні «replay» націснуць, ні зыначыць —*
*Памахай на розвіт мне рукой.*

*Згадкі пра завершанае лета*
*Спавіваючы сівой тугой,*
*Датляваюць нашы цыгарэты —*
*Памахай на розвіт мне рукой.*

*Пуста ў садзе — ураджай сабраны,*
*Жураўліны клін над галавой.*
*Не прынадзіш яблыкам крамяным —*
*Памахай на розвіт мне рукой.*

*Прышласць згасла ў позірку апошнім,*
*Хоць напярэдадзе гадоў сувой.*
*Не ўстурбуем ліставаннем пошту —*
*Памахай на розвіт мне рукой.*

*Знікну я ў вакзальным шматгалоссі,*
*Ты ў будзённы вернешся спакой.*
*Закідае лісцем след мой восень —*
*Памахай на розвіт мне рукой.*

[1] *Кеўлар (жарг.) – сучасная ваенная каска з надзвычай трывалага аднайменнага палімера.*
*Разгрузка (жарг.) – разгрузачная камізэлька, прызначаная эфектыўна размяркоўваць на чалавеку вагу боепрыпасаў, вайсковай ці тэхнічнай амуніцыі.*
[2] *«Дашка» – кулямёт ДШК (Дегтярёва и Шпагина крупнокалиберный).*

# Хронікі сучаснасці



Вадзім БАРЫСЕВІЧ

## Мяжа

Мяжа заўсёды з табой. Асабліва, калі ты маеш берасцейскую прапіску і пашпарце. І ты можаш не жыць па месцы рэгістрацыі, роўна як і на гады забыцца на зніжкі ў «Рывалі», але мяжа з табой назаўсёды. Яна чапляецца за цябе размовамі ў кавярнях пра цэны на візы. Абдымае навінамі пра чарговае закрыццё памежных пунктаў. У рэшце рэшт яна проста прэвентыўна існуе налепкай у пашпарце. Так, на ўсялякі выпадак, хай будзе. А пасля не паспееш і вокам павесці, як ужо стаіш і мармычаш польскаму памежніку пра мэту паездкі. Каб ты сам ведаў гэтую мэту…

Мяжа — дзіўны і разнастайны свет, у якім ужываюцца людзі розных палітычных поглядаў і жыццёвых мэтаў. Аб'яднальным ланцужком становіцца нянавісць да шматгадзінных чэргаў і абвінавачванне польскага боку ў здзеках з простых беларусаў. І ці толькі з беларусаў? Глядзіш у вочы кіроўцы-паляка аўтобуса «Брэст — Люблін» і чытаеш звычайную чалавечую стомленасць. З гэткай жа стомленасцю ў голасе ён просіць у цябе ўзяць бутэльку гарэлкі, бо кіроўцам нельга нічога правозіць. І ты бярэш, таму што ў мінулы раз ён дапамог табе, запісаўшы нумар тэлефона, каб ты змог збегаць у горад і яшчэ раз развітацца з любімым чалавекам. Да шлагбаўма перад табой 15 аўтобусаў, значыць, гадзін пяць дакладна ёсць у запасе.

Пакуль стаіш, пытаешся ў людзей, чаму яно так? Чаму паездка ў 160 кіламетраўператвараецца ў 16-гадзіннае рандэву са снэкамі, Duty Free і цудоўным відам на Буг з моста, але і ён ужо прыеўся за 5 гадзін стаяння на месцы. У кожнага ў адказ свая аналітыка, але ўсе сыходзяцца на наўмысным зацягванні працэсаў. Ты спачатку не верыш, думаеш, бздура, а пасля заязджаеш у двор і бачыш пустэчу, ніводнага аўтобуса, і ўсё разумееш.

Разумееш і на адваротным шляху, калі праходжанне беларускай мяжы ператвараецца ў ліпкія хвіліны чакання. «Все хорошо, подождите, вас сейчас проверят». І ты чакаеш, гледзячы, як праходзяць кантроль пасажыры твайго аўтобуса, а пасля яшчэ трох іншых. Чакаеш, каб пасля вывернуць вантробы заплечніка перад мытнікам, а пасля прайсці ў асобнае памяшканне і пачуць «В отношении вас выписано постановление о проведении полного досмотра».

Яшчэ хвіліна, і ты здымаеш з сябе ўсё, каб прысесці голым два разы, а пасля апрануцца, падпісаць паперкі і забегчы ў свой аўтобус, дзе чакаюць толькі цябе. З-за цябе аўтобус прастаяў дзве гадзіны, каб пасля ты выйшаў праз пяць хвілін на «Табакерцы» пад заселыя ў галаве радкі Жадана: «Вітчизна зустрічає сторожовими псами, // Хто торгує моїми небесами».

Стрэс і стомленасць мяжы хутка здымаецца з першымі відамі Мухаўца з моста і подыхамі насычанага берасцейскага паветра. Там (тут) у замежжы паветра мае дыстыляваны пах: колькі не ўдыхай, усё дарма. Гэта не сантыменты і не першыя сімптомы каранавірусу, а нейкі недаказальны факт. Мо пахі паветра становяцца даступнымі толькі калі ты здаў тэст на веданне польскай мовы не ніжэй за ўзровень B1. Ці праз праходжанне пакутлівых паходаў ва ўжонд. Вось вам дэцызія і пахі першых восеньскіх дзён.

Пахі вяртаюцца на мяжы і часам зусім непрыемныя. Берасцейскія ачышчальныя — маркер трывожнай сучаснасці. Але і іх рады пачуць праз месяцы стэрыльнага ўдыхання чужазем'я. Удыхаеш квадратам гэтыя пахі, паралельна тлумачачы мытніку, што няма нічога для дэкларавання. А можа і ёсць, якая розніца, калі праз пару гадзін для цябе будзе зноў усё зразумелае, роднае і ўцямнае. З доўгімі сапраўднымі размовамі, а не гэтым адсечаным і сарамлівым «вшыстку пожондку». Смол-ток, які мы заслужылі.

Мяжа з табой назаўсёды, асабліва калі ты напалову тут, напалову там. Немагчыма зрабіць акрэслены выбар, бо падсвядома выбар даўно ўжо зроблены, і ты ведаеш, дзе хочаш быць і жыць. Проста цяпер вось так. Мяжа як адна з кропак апоры і стабільнасці. Вузкая фортка са шматгадзіннымі чэргамі. І адзіны сродак сувязі з роднымі і роднай зямлёй.

## Горад

Горад — як вопратка. Спачатку ты вызначаешся з памерам, абіраеш падыходзячы для сябе стыль і пасля напаўняеш гардэроб у залежнасці ад патрабаванняў. За 33 гады я паспрабаваў тры памеры і бязліку колькасць стыляў. Спрабаваў уціснуцца ў нязручную эску з яе калючымі шарсцянымі штанамі, туфлямі з дзірачкамі (каб ногі дыхалі) і пáліўным мерчам Amatory, набытым на гарадскім рынку.

Насычанаму целу гармонамі (натуральнымі і штучнымі) было нязручна. Цела хацела прасторы, яно імкнулася кудысьці падалей ад гэтай зямлі, абы не тут, не ў гэтых дурацкіх штанах і не з гэтай паскуднай фрызурай з роўнай чолкай у стылі Цой на мінімалках. Так я змяніў эску на эльку. Агрэсіўную, шумную эльку, якая палохала сваімі памерамі, сваім галоўным праспектам-оверсайзам і якая адначасова прываблівала кэжуал-жаданамі з яго лакостамі і фрэдамі пэры.

Элька пагрузіла мяне ў свет контркультуры. Пазнаёміла з Уэлшам, Джармушам, фон Трыерам, анархізмам і калонкамі Марціновіча ў «Белгазеце». Элька ляпіла з мяне чалавека, не сароме́ўшыся заліваць у глотку літры таннага піва і нейкіх сумнеўных аналгетыкаў. Усё каб пашырыць кругагляд і печань. А пасля здарылася эмка. Утульная эмка са сваімі «русскими офицерами» і пакутнай гісторыяй са знішчэннямі і акупацыямі.

Эмка стала камфортным памерам, сапраўдным шэлтарам, куткі якога я адкрываў на працягу 11 гадоў і працягваю адкрываць. Мая эмка — гэта восеньская Набярэжная са спакойным Мухаўцом, які стагоддзямі працуе ў напрамку цялеснай тэрапіі і са скепсісам глядзіць на ўсіх гэтых гештальтыстаў, цвікастаяльшчыкаў, таргетолагаў і эсэмэмшчыкаў, што акупавалі кавярню Paragraph насупраць прыроднага скарбу.

Мая эмка — оксфардская бавоўна, з якой пашыты класічныя кашулі пінчука Ральфа Лорэна. Апранаеш яе — і перад табой адкрываюцца новыя сцежкі і маршруты, якія мінуюць пошласць вуліц Савецкай ды імперыялізм Гогаля. Эмка паказвае табе сваю спадчыну як найлепшаму сябру. Як найлепшаму сябру яна стогне ў прываце пра памылкі забудоўшчыкаў, якія так ушчыльняюць гістарычны цэнтр, што той пачынае заставацца толькі на фотакартках краязнаўцаў.

Мая эмка — эмпатычны інтраверт, што паказвае прыгажосць тыповай забудовы толькі праверанымі жыхарам. Яна вядзе цябе за руку па зялёнай частцы Паўднёвага гарадка, частуе піцай «Прашута» ў кавярні Рарі, а пасля зноў адпраўляе на Набярэжную, дзе вы ўдвох з каханым табе чалавекам носіце адну эмку на дваіх. Эмка шчаслівая, яна ўсміхаецца.

І калі табе даводзіцца пакінуць сваю эмку (часова, канешне, часова), ты абіраеш такую ж эмку, эмку-пабрацім, эмку-стрыечнага брата ў суседняй краіне, каб хоць неяк падтрымліваць сувязь са сваім родным памерам.

Новая эмка сустракае цябе хостэлам, дзе кожны дзень змяняюцца пастаяльцы. Хтосьці з іх раніцай ляціць у Дублін, хтосьці скрадае твае дранікі, набытыя ўвечары ў «Карфуры». Новая эмка не спяшаецца адкрывацца перад табой, бо яна як і твая родная ўтульная эмка, такі ж самы інтраверт. І каб наладзіць сувязь, ты робіш бюракратычныя крокі: пэсэлішся, мельдуешся, даведваешся пра словы чынш і каўцыя. Гэта будуць адзіныя новыя словы, якія ты вывучыш у суседняй краіне (акрамя ўжо вядомых чэсць і дзенькуе).

З новай эмкай ты будзеш размаўляць на беларускай. Яна ў адказ будзе маўчаць, і ты будзеш спрабаваць расшыфраваць гэтае маўчанне, праходзячы кожны дзень дзясяткі тысяч крокаў у надзеі знайсці штосьці ад сваёй роднай і ўтульнай эмкі. І ты знаходзіш. Знаходзіш спадчыну, якая захавалася ў новай эмцы, а ў тваёй была знішчана дзеля сумнеўнага фартыфікацыйнага праекту. Бачыш палаца-паркавыя ансамблі, гарадскую інфраструктуру, увесь гэты ўрбанізм, хай і на пачатку свайго станаўлення. Бачыш і ўсмоктваеш, нібыта прыехаўшы з галоднага краю. Усмоктваеш па адной простай і банальнай прычыне, каб вярнуцца з гэтай працяглай камандзіроўкі не з пустымі рукамі і падарыць усё назапашанае сваёй роднай і любімай эмцы. Даць ёй і сабе новае жыццё. І нарэшце запусціць у дзеянне персанальны эмка-фрэндлі падыход.

## Краіна

Краіна — жывы арганізм. Ты можаш адваліцца, як частка, пакаціцца перакаці-полем у бок стражы гранічнай, стаць самотнай фігурай вялікага пазла, а краіна ў любым выпадку адновіцца пасля авітамінозу. Краіна як печань: на кожны цыроз знойдзецца свой эсэнцыале.

Ты можаш стаць імпартным комплексам вітамінаў, амбасадарам сеткі Rossman і раскручаных бадаў Dr.Herz, але ўсё гэта — касметычны рамонт знешняга вобразу. Унутраным станам займаюцца джэнерыкі. Тыя джэнерыкі, якія мы так любім абвінавачваць у неэфектыўнасці і пабочках. Не так дзейнічаюць, не так лякуюць. Народзец не той, і пратаколы лекавання не тыя. Скажонае ўспрыманне рэчаіснасці ў залежнасці ад палітры колераў паліто.

Краіна — канструктар, які можна круціць і збіраць як заўгодна. Калі ты ўнутры — ты маленькая частка велізарнай махіны. Беларусь duplo з солдаўтам «Драздоў» у Мірскім замку, канцэртам гурта KaS у ДК «МТЗ» і Веткаўскім музеем як адным з фарпостаў беларушчыны. Унутры заўсёды ёсць выбар, якой часткай канструкцыі стаць. Звонку — усё інакш.

Звонку ты становішся стэрыльнай адзінкай. Дзіцём, якому трэба праходзіць экспрэс-курс сепарацыі, бо пэсэлі, мельдункі за цябе ніхто не зробіць. А калі і зробіць, то запатрабуе за гэта кейс грошай, якія гучаць так весела — пенёндзы. Вшыстко пажонтку становіцца ўніверсальнай фразай для ўсіх. І для гаспадара, якому ты адносіш чынш кожны месяц. І для беларусаў, якія з'ехалі пару гадоў таму. І тыя і тыя — раздражняюць.

Калі ты ў краіне, то чуеш голас зямлі, шэпт суайчыннікаў і адчуваеш настроі аднадумцаў. Працуеш як прыёмнік: ловіш хвалю, падхопліваеш — і вось ты чытаеш вершы ў галоўнай кавярні летам 2022 года. Не ўсе вершы і не пра ўсё, але для сваіх людзей у сваім месцы.

Звонку твой радар ловіць зусім іншыя галасы. Адныя заліваюцца ў экстазе дыска-пола спевамі пра каляровую бедронку. Плююць у твар сваім «о курва, я пердоле» і адрыгваюць газы ад энергетыкаў. Другія так захоўваюць Беларусь і беларушчыну, што ў выніку запаўняюць сабой усю інфапрастору. Тут можна смела фармуляваць думкі, казаць усё, што думаеш, і з пакутлівым выглядам казаць, як сэрца баліць за Беларусь. Канешне, баліць. Проста адны могуць пра свой боль сказаць, а іншыя — не.

І халера ўжо з тымі, што пабудавалі на пакутах свой уласны брэнд і цокаюць кожны раз ад відэа з масавых святаў на цэнтральных плошчах райцэнтраў. Проста ты не разумееш, чаго тут робіш. Кадэнцыя гучыць горда, але што ў выніку? Краіна не можа даць табе працу, але дае энергію. Замежжа не можа даць табе энергію, але дае працу.

Кожнае слова, напісанае ў замежжы, даецца цяжка. Гэты тэкст я пачаў пісаць месяц таму, а яго аб'ём — старонка… Цябе не натхняюць зніжкі ў «Бядронцы», калядныя кірмашы і «Сопліца», ад якой часам пакутуе страўнік. Табе хочацца «Старкі», смол-тока з выпадковым мужыком у «Санце» і бясконцых шпацыраў па Набярэжнай з каханым чалавекам.




Фота Kasper PEMPEL

Заканчэнне на стар. 10 »

# Хронікі сучаснасці

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

Але ўсё гэта — ныццё. Неэфектыўны інструмент, якім карыстаюцца шматлікія прадстаўнікі беларускага замежжа. Бачыце, ужо скарыстаўся ім і я. Бо пакутаваць па краіне — проста. Хадзіць на канцэрты і выставы — проста. Купляць новую кніжку — проста. Няпроста бачыць, як жыве і развіваецца краіна.

Як на кволых палях прарастаюць новыя беларускія дрэвы. Як асцярожна і паціху адбудоўваецца знішчанае, і адбудоўваецца новымі людзьмі. Як пяшчотна зберагаецца беларуская культура. Як беларуская мова трапляе ў маркетынг і бізнэс. І ў рэшце рэшт — як краіна развіваецца, нягледзячы на ўсё. Бо па-іншаму і быць не можа.

Краіна — жывы арганізм, а Беларусь — жывейшая за ўсіх жывых.



Фота extraguide

## Дом

Чалавек не слімак. Максімум — кенгуру з адной вялізнай кішэняй, куды змяшчаецца тры кніжкі, чатыры пары шкарпэтак, адны джынсы і два світшоты. Добра, калі пашчасціла забегчы ў кенгурынае атэлье і павялічыць аб'ём кішэні на пару літраў. Выдыхаеш з палёгкай і закідваеш яшчэ лыжку, кубак і рондаль. З цяжкасцю зашпільваеш кішэню і пачынаеш паўзці ў бок невядомага. Паўзеш асцярожна, бо змест кішэні — частка таго невялікага, што засталося ад дома.

Астатнія часткі раскіданыя паміж дзвюма гарадамі. Найвялікшая і найдаражэйшая засталася ў абласным цэнтры, які так любяць расейскія турысты. Асабліва любяць зімой, на свае навагоднія вакацыі. Запаўняючы прастору перагарам і дзіўоснымі пытаннямі ў стылі «как пройти к резиденции Деда Мороза», яны паўзуць у свае санаторныя бярлогі — апошні фарпост антысанкцыйнага змагання.

Другая, тая, што паменш, ляжыць у райцэнтры, дзе Леніна прыбралі з цэнтральнай плошчы і паставілі наўпрост у двары. З дзясятак гадоў Ільіча разам з камунальшчыкамі абслугоўвае галубіная брыгада. Райцэнтр ведаюць па трох складніках: піву, муцэ і замку. І мала хто ведае, што амаль уся архітэктурная спадчына міжваенкі засталася хіба што на фотаздымках. Нават у замка толькі адна сцяна арыгінальная.

І вось ты паўзеш, трасешся над сваёй часткай, а флэшбэкамі ідуць успаміны пра продаж ложка і лядоўні на «Куфары». Шкадуеш, што аддаў за капейкі, але ні лядоўня, ні ложак не ўлазіць у кішэню. У кішэню не ўлазіць нават тысячастаронкавы «Бясконцы жарт», падараваны каханым чалавекам на твой мінулы дзень народзінаў.

Чалавек не слімак. Хаця б таму, што слімак жыве ў сярэднім 2—4 гады, а з яго хуткасцю можна дапаўзці максімум да Жабінкі. Калі б чалавек быў слімаком, то заўсёды б заставаўся ў межах дома. А вось з кенгурынай прыткасцю і кішэняй можна скокнуць то ў Ваву, то ў Вільню ці ўвогуле на Лімасол. Ёмахо, Лімасол.

Кішэня не дае пачуцця дома, як не дае яго і змесціва тваёй кішэні. Гэта ўсё трасціначкі, за якія ты трымаешся, каб не адляцець у сусвет знакамітага рамана Кена Кізі. Карані там, дзе на паркоўцы стаіць шэрая «Toyota Yaris» — дэпрэсіўная японачка: бітая і перафарбаваная ахвяра кіроўцавага абʼюзу.

Дзе на пятым паверсе з цудоўным відам на Мухавец цябе чакае твой каханы чалавек. Дзе ў прыватным сектары чакае тваіх грошай бабуля, якой ты плаціш за берасцейскую прапіску і кожны раз ставіш сабе пытанне «навошта?». Адзіны трывалы корань тут — сын. Ён зазямляе і не дае адляцець, бо ў 34 разумееш адказнасць і са скепсісам глядзіш на похвапакутніцкія рылсы і вечныя пошукі сябе. Бо трэба не сябе шукаць, а працаваць — гэта адзінае, што цяпер магчыма ў гэтай рэальнасці з мноствам невядомасцей.

Дом немагчыма перавезці і перанесці. Можна абкласціся кніжкамі з alegro, натанчыцца да дурноты на варшаўскіх танцполах пад знаёмыя ўсім гурты, а можна зайсці адзін раз у «Белкнігу», і гэта адразу ўсё перакрые. Дом — гэта пачуцці. Нават калі фізічнага дому няма, домам становіцца пах кулінарыі ў «Санце», каньяк «Араспэл» у «Еўраопце» і сумесны прагляд камедыі пад бутэльку шампанскага.

Канешне, можна пусціць новыя карані і забіць на ныццё і сантыменты. Магчыма, гэта адзіны правільны, экалагічны, дарослы і які там яшчэ, па меркаваннях псіхолагаў, шлях. Можна ўвогуле карані не запускаць і прыгаць, як кенгуру, паўтараючы наратывы адваротнай прапаганды пра «канцлагер і ўсё страчана». Тут, як і ў цэлым у жыцці, няма правільнага выбару. А вось дом — ёсць.

## Дэманы

Кожны чалавек носіць сваіх дэманаў з сабой. І выпускае на волю, калі ўжо болей немагчыма хацець, верыць і магчы. І вось так ты абіраеш Бафамета між рэспектабельных дзяўчын. Дзякуй Лявону Вольскаму за магчымасць такога каламбуру.

Дэманы ніколі не даюць спакойна жыць. Любая сублімацыя — будзь гэта вершы ці гэты допіс — выгул уласных паўшых анёлаў. Цяперз яны пад кантролем: сядзяць і слухаюць моўчкі. Чакаюць, калі ты аступішся, каб з новымі сіламі пайсці ў контрнаступ. А там ужо — бадлераўскі заняпад і рэмбоўская бессэнсоўнасць. «Вы помните ли то, что видели мы летом». Да ніх*я ўжо тут не памятаеш, бо вочы залітыя гарэлкай ці піўком у залежнасці ад выкручаных дэманамі тумблераў.

Выкручваюць яны іх заўсёды на поўніцу. Так, што душа пачынае скавытаць, нібыта дваровы шчанюк, якога толькі што пазбавілі дома. Рот напаўняецца гаркотай, і вось ты заліваеш у яго вішнёвы лікёр, каб хоць трохі падсаладзіць і патушыць ачаг болю. Але гэта не праце.

Тушыць дэманаў алкаголем — тое самае, што лячыць боль у спіне з дапамогай астэапатаў. Заліў нектарчык, адчуў цяпло — і палягчэнне, а назаўтра прачнуўся яшчэ больш няшчасным і бездапаможным. Унутраны боль стаў яшчэ мацнейшым, бессэнсоўнасць — гусцейшая.

Дэманы хітрыя і заўсёды шэпчуць свае мантры табе ў вушы. Маўляў, ніхто цябе не прымушае напівацца да чорцікаў. Вазьмі крышачку, каб патушыць унутраны зуд. Ты моцны, ты можаш кантраляваць. Граюць на моцы, сукі. На тваёй ахілесавай пятцы. Ведаюць, што ты, бля, зробіш усё, каб даказаць, што моцны, нават там, дзе гэта не трэба. А ўвогуле — ці трэба гэта? Прызнанне слабасці — вось дзе сапраўдная моц.

У лютым дэманы не адпускаюць нават ноччу. Падкідваюць жахі, каб ты прачнуўся нямоглым і трапіў у іх лапы адчаю і кіпцюры болю. І калі ўжо трапіў — проста так яны не адпусцяць. Будуць смактаць кроў, шаптаць пра бессэнсоўнасць жыцця і падштурхоўваць да дэструктыву. Зробяць усё, каб ты спачатку пераўтварыўся ў кволае і нямоглае дзіця, а пасля ўвогуле стаў сваім шэрым ценем.

Кожны чалавек — свайго рода кінолаг. Дзень за днём мы дрэсіруем сваіх уласных звар'яцелых псоў, што спрабуюць зжэрці нас знутры. Камусьці дрэсіроўка даецца лёгка, і ўчорашні пантэон паўшых анёлаў становіцца надзейным бізнэс-партнёрам і апорай у жыцці. Хтосьці перамагае толькі на кароткіх дыстанцыях і хавае сваіх дэманаў у асобным пакоі за якаснымі замкамі. А тыя, як вопытныя дамушнікі, кожны раз вылазяць.

Дэманаў немагчыма забіць, але іх можна стаміць. Калі яны не паддаюцца дрэсіроўкам і ніяк не хочуць станавіцца ручнымі, іх варта выматаць так, каб не было сіл нават пастку адкрыць. І гэта я не пра камунікацыю з імі. О, пагутарыць яны вельмі любяць. Асабліва патаньчыць на тваім сораме і пачуцці віны.

Не, усе размовы і рэфлексіі трэба хаваць ад дэманаў як можна далей. А іх саміх закідваць у заплечнік і пізд*ваць, пакуль не адваляцца ногі. Разам з тваёй стомленасцю, стомяцца і яны. Ім ужо будзе лянота шаптаць пра тваю недасканаласць і прасіць зайсці ў краму па чакушачку. Яны будуць мірна спаць. Спаць да тых часоў, пакуль не адчуюць момант твайго адчаю і не пачнуць сваю атаку зноў. І вось тут трэба здзюжыць, каб даць ім піздз*лей, запіхнуць у заплечнік і паўтарыць рытуал па новай.

Не сумуй, калі табе так і не ўдалося прыручыць сваіх дэманаў. Гэта азначае, што ты жывы чалавек, а не пластыкавы псіхалагічна-экалагічны вобраз з сацсетак. Кожны з нас змагаецца са сваім, і кожны пражыты дзень ёсць перамога. Гучыць па-пастарску пафасна, але так і ёсць.

Жыццё — галоўнае і, бадай, адзінае, што абʼядноўвае ўсіх людзей на свеце. І мэта кожнага — не аддаць яго дэманам.

## Мяжа 2.0

Праз год мяжа становіцца нечым звычайным і паўсядзённым. Ты ведаеш яе рух, настрой, больш не верыш у цуды з хуткім пралётам абодвух пунктаў і клянеш Кныровіча за яго лізаблюдства перад захадам. Сытыя словы, сытыя рэчы. Фляка на стале, побыт на плечы.

Праз год мяжа пачынаецца з украінцаў-транзітнікаў, што едуць праз Польшчу ў Беларусь, каб пабачыць сваякоў. І з кіроўцы паляка, які абкладвае матам людзей за тое, што яны выкарысталі сваё бяскрыўднае права на свабодны рух.

«Цо вам трэба в той Бялорусі. З-за вас, курва, стаяць пяць годзін», — заходзіцца паляк і смачна плюецца на бяла-падляскі асфальт. Стомленыя ўкраінска-польскай мяжой людзі маўчаць, захоўваюць рэсурс. Геапалітыка тут вызначаецца колькасцю твайго цярпення, трываласці і кантэнту ў тэлефоне. Нам бы очередь отстоять да допрос продержаться.

Допыт украінцаў працягваецца тры гадзіны, і па вяртанні кіроўца цалкам губляе чалавечы твар. «Пяць годзін, курва, з-за вас. Нікакой варшавкі, там нема пшэстанку, все на вокзал», — кажа паляк на сумесі дзвюх моў і смачна плюецца на берасцейскі асфальт.

Пакуль чакаеш украінцаў, паспяваеш падыхаць сваім, а не арэндным паветрам. Паглядзець без гука праграму «Будет дополнено». Праводзіць позіркам мужыка, якога вывелі ў кайданках і звезлі ў берасцейскае ІЧУ.

У чаканні зліваешся з людскімі лёсамі, што складаюць адну вялікую памежную гісторыю. Часцей за ўсё — трагічную. Паварочваеш галаву направа, і бачыш сумны позірк мужыка, якога развярнулі на ўкраінскай мяжы. «У меня там родители. Им ко мне — не вариант: уже не ходят. Буду думать, как перевозить в Беларусь».

Праз год мяжа адкрыла свой сапраўдны твар. Твар, поўны болю, адчаю, стомленасці і бессэнсоўнасці. Стомленасці ад коўзання туды-сюды, бессэнсоўнасці ад наяўнасці самой мяжы ўвогуле.

Самы просты шлях у гэтым усім — распачаць пошук вінаватых. Раскрыць геапалітычную пысу і плявузгаць, пакуль гадзіннічак цікае. Але пачынаць заўсёды трэба з сябе. І тады мяжа перастае быць бессэнсоўнай. Бо сэнсы — за ёй.

# Стагоддзе Гары ГАРЫСАНА



Васіль УЛАДЗІМІРСКІ

Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння амерыканскага пісьменніка і мастака Гары Гарысана (1925—2012), аўтара цыклаў «Сталёвы пацук», «Свет Смерці», «Білі — герой галактыкі», «Эдэм», «Молат і крыж» (у суаўтарстве з Томам Шыпі) і многіх іншых кніг. З моманту выхаду рамана «Неўтаймоўная планета» ў часопісе «Вокруг света» ў 1972 годзе Гары Гарысан стаў для савецкіх чытачоў адным з галоўных сімвалаў амерыканскай фантастыкі. У часы перабудовы яго раманы запоўнілі ўсе кааператыўныя латкі (старэйшыя чытачы могуць успомніць гэтыя бясконцыя томікі ў жахлівых кітчавых вокладках).

Аднак біяграфія пісьменніка не вычэрпваецца складаннем «крутых прыгод». Больш за тое: у яго, можна сказаць, дзве паралельныя біяграфіі.

### «Не служыў — не мужык»

Парадаксальна, але аўтар брутальных фантастычных баевікоў Гары Гарысан трываць не мог ваенную службу і ўсё, што з ёй звязана. Зусім не пацыфіст, да войска ён ставіўся як да груваcткага, тупога, бяздушнага і збольшага бессэнсоўнага бюракратычнага механізму. Гэтыя пачуцці знайшлі выяўленне ў яго рамане «Білі — герой галактыкі» («Bill, the Galactic Hero», 1965), напісаным, як успамінаў пісьменнік, пад уплывам «Удалага салдата Швейка» Ярослава Гашака. Сам аўтар пазбягаў асуджэння гэтай тэмы, але многія ўспрынялі абсурдысцкую чорную камедыю Гарысана як пародыю на «Зорны дэсант» («Starship Troopers», 1959) Роберта Хайнлайна. Прынамсі, у часопісе «Galaxy» фрагмент рамана публікаваўся пад красамоўнай назвай «The Starsloggers» — і Хайнлайн улавіў відавочны намёк. Антыпатыя ўзнікла не на пустым месцы: у гэтай кнізе аўтар не столькі беспадстаўна паклёпнічае на «ўдалую» амерыканскую армію, колькі пераасэнсоўвае свой уласны жыццёвы вопыт. З 1943 па 1946 год Гары Гарысан служыў у ВПС ЗША — спачатку на пасадзе тэхніка, потым у ваеннай паліцыі, дзе канваіраваў чарнаскурых арыштантаў (і, па ўспамінах, нядрэнна праводзіў у іх кампаніі час). І службу, відаць, нядрэнна: у адстаўку ён адправіўся ў званні старшага сяржанта. Яго погляд на войска — гэта погляд знутры, прычым не з пункту гледжання афіцэра (як у таго ж Хайнлайна) або прывілеяванага грамадзянскага спецыяліста (як у Айзека Азімава), а звычайнага, нічым не выбітнага салдата, патэнцыйнага «гарматнага мяса». І тое, што ўбачыў Гарысан, яму зусім не спадабалася — пачынаючы з вучэбнай справы, дзе будучаму пісьменніку давялося тройчы прайсці курс маладога байца проста таму, што загад аб залічэнні ў дзеючыя часткі пазніўся. Бясцэнны вопыт, набыты за тры гады службы ў ВПС, ён вычарпальна падсумоўваў на старонках аўтабіяграфіі «Гарысан! Гарысан»: «Так, мы, прызваныя ў юныя гады, пасталелі і памужнелі, але гэты працэс праходзіў у суровых вайсковых умовах. Чаму мы там навучыліся? «Касіць» ад службы, брыдкасловіць, п'янстваваць і жадаць блізкасці з процілеглай паловай»



Гары ГАРЫСАН

### Гісторыі ў малюнках

Той, хто цікавіўся біяграфіяй Гарысана, напэўна ж у курсе, што яго творчая кар'ера пачалася з коміксаў. Пасля дэмабілізацыі будучы пісьменнік прайшоў навучанне на курсах мастакоў-ілюстратараў, а потым некалькі гадоў зарабляў на жыццё, малюючы вокладкі ў асноўным для малаоплатнага хорару, вестэрнаў і клішаваных любоўна-рамантычных гісторый, якія зненавідзеў за гэты час да глыбіні душы. У сярэдзіне 1950-х, калі рынак абрынуўся пасля прыняцця «Кодэкса коміксаў», Гарысан без шкадавання пераключыўся на «спавядальныя» артыкулы для палп-часопісаў, «крутыя прыгоды» і навуковую фантастыку. Аднак безграшоўе і фінансавыя траты пасля нараджэння першага, а затым і другога дзіцяці прымусілі яго вярнуцца да коміксаў ужо ў ролі сцэнарыста. З 1958 па 1964 год абцяжараны сям'ёй аўтар «Сталёвага пацука» працягваў складаць сюжэты і дыялогі для штодзённых выпускаў аднаго з самых папулярных амерыканскіх НФ-коміксаў «Флэш Гордан». З большым энтузіязмам Гарысан пісаў тэксты для ілюстраваных выданняў і выступаў у ролі складальніка альбомаў. Пры яго актыўным удзеле выйшла «Звычайная гісторыя» («Planet Story», 1979), створаная ў суаўтарстве з мастаком Джымам Бёрнсам, «Вялікія вогненныя шары» і некалькі іншых кніг, пераважна для еўрапейскага рынка. Што ж да коміксаў, дык, паводле яго ўласных слоў, пісьменнік ніколі не быў прыхільнікам гэтай формы мастацтва і ставіўся да такой працы як да не занадта цяжкай халтуры: фрылансеру грэх адмаўляцца ад невялікай, але стабільнай падпрацоўкі. Гэта значыць: пазіраў пагардліва, з паблажлівай гідлівасцю інтэлектуала — роўна гэтак жа, як прадстаўнікі літаратурнага істэблішменту глядзелі на мілую яго сэрцу навуковую фантастыку.

### Інфакачэўнік

Пра «інфакачэўнікаў» упершыню загаварылі ў пачатку нулявых, калі ў прадстаўнікоў творчых прафесій з'явілася тэхнічная магчымасць працаваць аддалена, падарожнічаючы па ўсім свеце, ад Тайваня да Парыжа і ад Токіо да Кіпра. Аднак Гары Гарысан абраў гэты лад жыцця за шмат дзесяцігоддзяў да з'яўлення персанальных кампутараў і шырокапалоснага інтэрнэту. Яшчэ ў 1956 годзе яго змучаная хранічным безграшоўем сям'я перабралася ў Мексіку (менавіта там быў пачаты дэбютны раман пісьменніка «Неўтаймоўная планета» і напісаны першыя апавяданні пра «пацука з нержавеючай сталі»). Зіму 1957—1958 гадоў сямейства правяло ў Лондане, дзе затрымалася без грошай і жорстка пакутавала ад холаду: у Англіі таго часу далёка не ўсюды было праведзена цэнтралізаванае паравое ацяпленне, а сродкаў на аплату газавага каміна не хапала. Летам 1958-га Гарысаны перабраліся ў Італію, на востраў Капры. З 1959-га жылі ў Даніі, потым, пасля невялікага перапынку, уладкаваліся ў Ірландыі, аб'ездзілі ўсю Еўропу, пакуль не спыніліся ў Дубліне. Час ад часу яны вярталіся ў ЗША, але большую частку часу аўтар «Сталёвага пацука» праводзіў у паездках па Еўропе: яго вабілі адносная таннасць, мяккая сістэма падаткаабкладання, а ў Скандынавіі, апроч іншага, — яшчэ і сацыяльная медыцына. І ўвесь гэты час ён працягваў пісаць, маляваць, рэдагаваць шматлікія часопісы, складаць анталогіі для еўрапейскіх, брытанскіх, але найперш амерыканскіх выдаўцоў: яго пішучая машынка і малявальныя прылады звычайна адпраўляліся ўслед за пісьменнікам морам або грузавой авіяпоштай. Праўда, нярэдка ганарары затрымліваліся — а аднойчы, па ўспамінах Гарысана, выдавец, які ведаў пра нестабільнасць банкаўскай сістэмы за межамі ЗША і Злучанага Каралеўства, проста выслаў грошы ў канверце, загарнуўшы ў капіявальную паперу, каб мытня не выявіла купюры на прасвет...

### Дзіўныя прыгоды замежніка ў Расіі

Як і многія іншыя амерыканскія фантасты, ад Айзека Азімава і Роберта Сільверберга да Коры Дактароу, Гары Гарысан мае «руска»-габрэйскія карані: яго маці нарадзілася ў 1882 годзе ў Рызе, адтуль яе сям'я перабралася ў Санкт-Пецярбург і потым эмігравала ў ЗША. Чалавек шырокіх поглядаў, ён стараўся сачыць і за фантастыкай сацыялістычнага лагера: у штогодніку, якія Гарысан складаў сумесна з Браянам Олдысам, уваходзілі апавяданні Анджэя Нэфа, Іллі Варшаўскага ды іншых усходнееўрапейскіх пісьменнікаў. У 1970-х, стаўшы арганізатарам вялікага міжнароднага фестывалю ў Дубліне, Гарысан не забыў пра сваіх савецкіх калег. Праўда, на першым канвенце, як згадваў Гарысан, «не было рускіх. Я запрасіў толькі аднаго чалавека з СССР — Яўгенія Брандзіса. Гэта быў крытык сусветнага ўзроўню, спецыяліст па англійскай літаратуры, які з некаторага часу звярнуўся да фантастыкі. Ён параўноўваў маю творчасць з творчасцю Джонатана Свіфта: як не жадаць знаёмства з такім чалавекам!». Затое на другі ірландскі канвент удалося завабіць старшыню Савета па навуковай фантастыцы пры Саюзе пісьменнікаў СССР Ерамея Парнова і яго непасрэднага начальніка. Зваротную ветлівасць Парноў змог аказаць у гады перабудовы: у 1987-м Гарысан стаў госцем маскоўскай Міжнароднай канферэнцыі «Навуковая фантастыка і будучыня чалавецтва» — разам з Фрэдэрыкам Полам, Джонам Бранэрам, нямецкім пісьменнікам Гербертам Франке ды іншымі фантастамі, як «роўны сярод роўных». Гарысан узяў рэванш пазней — пасля распаду СССР, стаўшы адным з самых запатрабаваных на постсавецкай прасторы англа-амерыканскіх фантастаў. Такіх тыражоў у аўтара «Сталёвага пацука» і «Свету Смерці» не было ні ў адным іншым кутку свету, не выключаючы ЗША.

Упершыню Гарысан пабываў у «несавецкай» Расіі ў 1998-м, на запрашэнне маскоўскіх выдаўцоў, і быў прыемна здзіўлены ўзроўнем сваёй папулярнасці. Шмат гадоў ён заставаўся заўсёднікам канвентаў СНД — як і фантаст Роберт Шэклі. Гарысан пабываў на маскоўскім «Расконе», пецярбургскім «Інтэрпрэсконе», кіеўскім «Еўраконе», удзельнічаў у аўтарскіх турах, даў сотні інтэрв'ю.

І ўсё ж прычына такога шалёнага попыту на яго кнігі працягвала заставацца для пісьменніка загадкай. «Мяне дзівіць мой поспех за межамі ЗША. Я не разумею, чаму мяне чытаюць у Расіі і іншых краінах, — прызнаўся Гарысан на сустрэчы з чытачамі ў маскоўскім магазіне «Стажары» ў 1998 годзе. — Мне здавалася, што мае намёкі на гісторыю і сучаснасць ЗША зразумелыя толькі амерыканцам».

### Кожны гасконец з дзяцінства акадэмік

Пісьменнік Андрэй Балабуха любіць расказваць байку: на «Інтэрпрэсконе-1998», пецярбургскім канвенце аматараў фантастыкі, яны з Гарысанам апынуліся ў адным ліфце. Перакладчык прадставіў Балабуху аўтару «Сталёвага пацука», і той раптоўна заключыў калегу ў абдымкі — і не разлучаўся з ім да канца фестывалю. Высветлілася, што ў адным з артыкулаў пра Гарысана, перакладзенага на англійскую, Балабуха між справай параўнаў фантаста з Лукіянам Самасацкім, чым неверагодна ўсцешыў не распешчанага такімі кампліментамі амерыканца.

Гарысан любіў бравіраваць сваім статусам «моцнага рамесніка», заклапочанага толькі прыбыткам: «Такая сутнасць літаратурнай падзёншчыны: неабходна ведаць рынак і даваць яму тое, што ён хоча. Гэтая справа ўзаемавыгадная: ты высвятляеш, што трэба знаёмым выдаўцам, тым ці іншым чытачам, і падчас задавальнення іх запатрабаванняў напаўняеш уласную кішэню. Што тут сорамнага?» Але насамрэч рэпутацыя навуковай фантастыкі турбавала яго сур'ёзна. Гарысана заўсёды цягнула да нонканфармістаў і наватараў: раман «Білі — герой галактыкі», які пісьменнік не без гонару называў «авангардысцкай прозай, сумессю чорнага гумару і сюррэалізму», упершыню быў надрукаваны на старонках часопіса «New Worlds». Ён шмат гадоў сябраваў з аўтарам «Заваднога апельсіна» Энтані Берджэсам і неаднаразова ўключаў яго апавяданні ў свае анталогіі. У той жа перыяд Гарысан стаў і адным з амерыканскіх выдаўцоў Хорхе Луіса Борхеса — праўда, агенты аргенцінскага класіка неўзабаве сцямілі, што да чаго, задралі кошты з пяцідзесяці долараў за аповед да тысячы, і гэтыя творы сталі не па кішэні прадстаўнікам навукова-фантастычнага цэха. Больш за тое, у 1964—1965 гадах Гарысан распачаў першую ў гісторыі спробу «запусціць» сур'ёзны акадэмічны часопіс, прысвечаны навуковай фантастыцы. Апублікаваць атрымалася ўсяго два нумары, затое на іх старонках з'явілася некалькі разгорнутых аналітычных артыкулаў, а таксама інтэрв'ю, узятыя Кінгслі Эмісам у Клайва Стэйплза Льюіса і Уільяма Берроуза. Іншымі словамі, Гарысан-пісьменнік, аўтар няхітрага «Сталёвага пацука», і Гарысан-чытач, прыхільнік нонканфармісцкай, вынаходніцкай, стылістычна шчодрай прозы — два розныя чалавекі з рознымі густамі і перавагамі, і блытаць іх было б вялікай памылкай. Толькі вось хто з іх добры блізнюк, а хто злосны двайнік з раўналежнага сусвету — вырашайце самі.

## Дублінская прэмія

Сёлетнім лаўрэатам Дублінскай літаратурнай прэміі (Dublin Literary Award, трыццаты сезон) стаў канадскі пісьменнік Майкл Крамі (Michael Crummey) за раман «The Adversary (Супернік)».




Кандыдатура М. Крамі была вылучана на прэмію бібліятэкамі Ньюфаўндленда і Лабрадора. «Мяне б сёння тут не было без Публічнай бібліятэкі Б'юкенса ў маім родным горадзе. У бібліятэцы я апускаўся ў іншыя светы, выходзячы за межы гэтага мястэчка, і менавіта яна дала мне веру ва ўласныя магчымасці», — адзначыў Крамі, атрымліваючы ўзнагароду.

Дзеянне кнігі «The Adversary» адбываецца ў ізаляваным порце на ўзбярэжжы Ньюфаўндленда. У цэнтры сюжэта — «бітва паміж мужчынам і жанчынай, уладальнікамі найбуйнейшых гандлёвых фірмаў Макбегара, кожная з якіх змагаецца за бедныя рэсурсы паўночнаатлантычнага рыбалоўства». Варожасць галоўных герояў з кожным годам узмацняецца, а жыхары Макбегара аказваюцца вымушанымі перайсці на чый-небудзь бок...

Дублінская прэмія была заснавана ў 1996 годзе. Лічыцца адной з самых буйных у грашовым выражэнні. Прэтэндаваць на яе можа пісьменнік любой нацыянальнасці з любой краіны. Адзіным абмежаваннем з'яўляецца абавязковая публікацыя кнігі на англійскай мове. Калі кніга першапачаткова выдадзена на іншай мове, 25% прэміі атрымлівае яе перакладчык. Прызавы фонд прэстыжнай узнагароды складае 100 тысяч долараў.

## Жаночая прэмія па літаратуры

У Лондане абвешчаны лаўрэаткі адной з самых прэстыжных прэмій у Вялікабрытаніі — Жаночай прэміі за мастацкую і нявыдуманую літаратуру. Пераможцы атрымалі па 30 тысяч фунтаў стэрлінгаў кожная.

Жаночая прэмія за мастацкую літаратуру была прысуджана нідэрландскай (галандскай) пісьменніцы Яэль ван дэр Вудэн за яе раман пра каханне «The Safekeep», дзеянне якога адбываецца ў Нідэрландах у 1960-х гадах. Галоўная гераіня Ізабэль жыве адна ў загарадным доме сваёй памерлай маці. Адночы яе брат просіць запрасіць сюды на лета сваю дзяўчыну. Спачатку Ізабэль адчувае агіду да сваёй новай суседкі, а потым паміж жанчынамі завязваюцца больш блізкія адносіны. Раман даследуе тэмы пасляваеннага жыцця, спадчыны вайны і асабістых адносін. «Сейф (таемная схованка)» — дэбютны раман Яэль ван дэр Вудэн. «Такія кнігі з'яўляюцца не кожны дзень. Кожнае слова ідэальна размешчана, старонка за старонкай раскрывае аспект вайны і Халакосту, які быў значнай часткай недаследаваны ў мастацкай літаратуры», — сказала старшыня журы прэміі за мастацкую літаратуру Кіт дэ Ваал.

Жаночая прэмія за нявыдуманую літаратуру была прысуджана лекарцы паліятыўнай дапамогі Рэйчал Кларк за яе кнігу «Гісторыя сэрца». Яна даследуе дзве сем'і, якія знаходзяцца па розныя бакі працэсу донарства органаў. Гісторыя сканцэнтравана на дзецях: дзевяцігадовай дзяўчынцы Кіры, якая гіне ў аўтамабільнай аварыі, і дзевяцігадовым хлопчыку Максу, у якога сардэчная недастатковасць з-за вірусной інфекцыі. «Тэкст Кларк аўтарытэтны, прыгожы і спагадлівы. Яна вельмі клапоціцца пра захаванне гэтай каштоўнай гісторыі і распавядае яе з годнасцю, плаўна ўплятаючы ў гісторыю трансплантацыйнай хірургіі», — сказала Кавіта Пуры, старшыня журы па нявыдуманай літаратуры.

Жаночая прэмія за мастацкую літаратуру — адна з самых прэстыжных літаратурных прэмій Вялікабрытаніі. Яна была заснавана ў 1996 годзе пасля таго, як ніводны твор жанчын не быў уключаны ў шорт-ліст Букераўскай прэміі 1991 года. Прэмія ўшаноўвае пісьменніц з усяго свету, якія публікуюцца ў Брытаніі і пішуць на англійскай мове. У гэтым годзе ў шорт-ліст трапілі шэсць жанчын. Жаночая прэмія за нявыдуманую літаратуру была заснавана ў 2023 годзе пасля таго, як даследаванне паказала, што толькі 35,5% пераможцаў за апошняе дзесяцігоддзе былі жанчынамі.

## Шэкспір і юрыспрудэнцыя

«The Guardian» паведаміла пра знойдзеныя ў Нацыянальным архіве Вялікабрытаніі дакументы, якія сведчаць, што бацьку драматурга Уільяма Шэкспіра — прадпрымальніка Джона Шэкспіра — пераследавала Брытанская карона, што, магчыма, паўплывала на стаўленне яго нага сына да ўлады і кіруючага класа. Больш за дваццаць раней невядомых дакументаў былі знойдзены прафесарам Глінам Пэры з Універсітэта Роэхэмптона і, па словах кіраўніка аддзела ранніх і сучасных запісаў Нацыянальнага архіва доктара Кэці Май, з'яўляюцца «гранічна важнымі» для нашага разумення драматурга.

Са знойдзеных дакументаў вынікае, што ў бацькі Шэкспіра вымагалі грошы на карысць казны. Падзеі, якія, як мяркуюць навукоўцы, сфармавалі стаўленне падлетка Шэкспіра да ўлады і маральнасці, пазней былі адлюстраваны ў п'есах ад «Караля Ліра» да «Макбета».

Вядома, што хрышчэнне Уільяма Шэкспіра, як запісана ў адпаведных кнігах, адбылося ў красавіку 1564 года, а яго шлюб занатаваны ў снежні 1582-га; падрабязнасці ранняга жыцця драматурга «запазычваліся» з запісаў аб кар'еры яго бацькі Джона Шэкспіра з раней выяўленых рукапісаў, якія сведчаць аб тым, што ў перыяд з 1569 па 1572 гады Джона абвінавацілі ў незаконным ліхвярстве і вымагальніцтве грошай. Навукоўцы выказалі здагадку, што справы былі ўрэгуляваны па-за судом да 1573 года, але нядаўна знойдзеныя дакументы паказваюць, што Джон, чые напрамкі работы распасціраліся ад гарбарнага вытворцы да старэйшыны, магістра і вышэй, заставаўся ў фінансавых і прававых непрыемнасцях да 1583 года, калі Уільяму было 19 гадоў.



Стратфорд на Эйвоне, дом Джона ШЭКСПІРА, дзе, як мяркуюць, нарадзіўся Уільям ШЭКСПІР

Г. Пэры, які разам з суаўтарам піша кнігу пра жыццё Шэкспіра да 1592 года, прызнаўся, што пакуль ён не пачаў «капацца» ў Нацыянальных архівах, 150 гадоў папярэдніх даследаванняў «далі» менш за 15 дакументаў, якія тычацца Джона Шэкспіра. Ён быў «незадаволены» гісторыяй пра тое, што Джон дазволіў абвінаваціць сябе ў ліхвярстве і вымагальніцтве ў судзе прыкладна ў 1573 годзе, таму пачаў разбіраць дакументы Нацыянальнага архіва. Ён заказваў скрынкі дакументаў з саляных шахтаў у Чашыры, дзе захоўваюцца малаўжываныя дакументы, і пачаў разбірацца з даручэннямі для Уорыкшыра, пачынаючы з датаў судовых спраў Джона Шэкспіра. Сярод дакументаў, якія выявіў Пэры, ёсць некалькі лістоў супраць Джона Шэкспіра, дзе запісаны яго даўгі перад Каронай, у тым ліку 132 фунтаў стэрлінгаў, што складаюць каля 25 тысяч цяперашніх фунтаў стэрлінгаў. Дакументы паказваюць, як уласнасць прадпрымальніка была пад пагрозай захопу Каронай, што перашкаджала ягонай дзейнасці; і падобнае працягвалася да 1583 года.

Вучоны сцвярджае, што ў яго «няма сумневаў», што ў Нацыянальным архіве ёсць больш матэрыялаў пра Шэкспіра, многія з якіх не ўнесены ў падрабязныя каталогі, спісы ці індэксы, і ён мае намер працягваць пошукі.

Высновы Г. Пэры ўключаны ў Шэкспіраўскую дакументацыю і онлайн-зборнік матэрыялаў з першакрыніцамі пра жыццё Уільяма Шэкспіра.

## Джоан Роўлінг зноў мільярдэрка

Аўтарка кніг пра Гары Потэра Дж. К. Роўлінг вярнулася ў спіс самых багатых людзей свету. На пачатак лета паводле «Forbes» сумы на рахунках брытанскай пісьменніцы складалі 1,2 мільярда долараў, што паставіла яе на 2679 месца ў сусветным спісе багатых людзей. Роўлінг была страціла статус мільярдэркі ў 2012 годзе з-за актыўнай дабрачыннай дзейнасці. За апошнія два дзесяцігоддзі пісьменніца ахвяравала на розныя сацыяльныя праекты больш за 200 мільёнаў долараў.

Асноўнай крыніцай багацця Роўлінг застаецца франшыза пра Гары Потэра. Агульны наклад кніг серыі перавысіў 600 мільёнаў асобнікаў па ўсім свеце. Восем фільмаў сабралі ў сусветным пракаце каля 7,7 мільярдаў долараў, што робіць франшызу самай касавай у гісторыі на момант іх выхаду.

Брэнд Гары Потэра працягвае пашырацца праз тэматычныя паркі, відэагульні, мастацкія выставы і тэатральныя пастаноўкі. Адкрыццё першага атракцыёна Wizarding World




Джоан РОЎЛІНГ

Фота Legion-Media

у Universal Orlando ў 2010 годзе павялічыла наведвальнасць на 36%. Цяпер у свеце існуе шэсць паркаў Universal з падобнымі атракцыёнамі.

Дж. К. Роўлінг пачала пісаць першы раман пра Гары Потэра як маці-адзіночка, якая жыла на сацыяльную дапамогу. Кніга выйшла ў 1997 годзе і стала пачаткам адной з самых паспяховых літаратурных франшыз сучаснасці...

## Трамп і Пулітцэраўская прэмія

Прэзыдэнт ЗША Дональд Трамп абвясціў аб сваёй перамозе ў Апеляцыйным судзе Фларыды ў справе супраць Камітэта па прысуджэнні Пулітцэраўскай прэміі. Кіраўнік Белага дома ў сваёй сацыяльнай сетцы «Truth Social» паведаміў, што суд адхіліў «спробу адказчыкаў» спыніць яго пазоў, які аспрэчвае прысуджэнне Пулітцэраўскай прэміі 2018 года журналістам «The New York Times» і «The Washington Post». Паводле Трампа, прэмія была прысуджаная «незаконна» за «ілжывыя і шкодныя» матэрыялы, звязаныя з расследаваннем меркаванай змовы паміж яго кампаніяй і Расіяй у 2016 годзе. У сваім пасце ён назваў публікацыі на тэму «Расія, Расія, Расія» «поўнай супрацьлегласцю праўдзе», таму, на яго думку, журналісты павінны вярнуць узнагароды. «Мы прыцягваем СМІ, якія распаўсюджваюць фэйкавыя навіны, да адказнасці за іх хлусню амерыканскаму народу», — сказаў Трамп, паабяцаўшы працягваць барацьбу за «сумленнасць у журналістыцы».

Пулітцэраўскую прэмію ў 2018 годзе атрымалі журналісты «The New York Times» і «The Washington Post» за «глыбокае і працяглае асвятленне сувязяў кампаніі Трампа з Расіяй». Пазней, пасля завяршэння расследавання спецыяльнага пракурора Роберта Мюлера, Трамп неаднаразова патрабаваў адклікаць узнагароды, сцвярджаючы, што журналістаў узнагародзілі за «фальшывыя навіны», і звярнуўся ў суд. У 2022 годзе Пулітцэраўскі камітэт правёў уласнае расследаванне і пацвердзіў правільнасць рашэння аб прысуджэнні прэміі, заявіўшы, што публікацыі адпавядаюць высокім прафесійным стандартам. Пулітцэраўскі камітэт прыклаў намаганні, каб спыніць зварот Трампа, паколькі ён супярэчыць канстытуцыйным нормам свабоды слова. Аднак суд дазволіў працяг справы...

## Ясенін на нацыянальных мовах Расіі

З'явіцца анталогія перакладаў твораў Сяргея Ясеніна «Краіна паэта» на нацыянальныя мовы Расійскай Федэрацыі. Прапанаваць пераклад можа любы ахвочы на сайце праекту, прысвечанага 130-годдзю з дня нараджэння паэта.

Таксама карыстальнікі платформы змогуць пачуць, як гучаць яго вершы на розных мовах (відэаролікі, у якіх артысты, прадстаўнікі карэнных народаў, выкладчыкі і захавальнікі моў прачытаюць любімыя радкі С. Ясеніна). «Прачытанне твораў Ясеніна на розных мовах нагадвае аб унікальнасці нацыянальнага складу нашай краіны і стварае мост паміж мовамі і культурамі народаў Расіі. Гэта не толькі пашырае магчымасці ўспрымання творчасці класікаў, але і становіцца важным крокам у захаванні і развіцці родных моў», — адзначыў ініцыятар праекту пісьменнік, паэт Аляксандр Вулых.





Адрас электроннай пошты: litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.